№ 46 (203) 13 лістапада 2000 г.

# НАША НІВА

Заснаваная ў 1906. Адноўленая ў 1991. Выходзіць у панядзелкі

ПЕРШАЯ БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЭТА

5 **БЕЛАРУСКАЯ ГАМБІЯ**

былая калёнія Вялікага Княства Літоўскага перажывае не найлепшыя часы

3 **ЗАЛАТЫ ШВАГЕР**

магілёўскі фэстываль пацешыў сэрцы савецкіх грамадзянаў

## Акцыя "Пераменаў!" у Менску: весялосьць цераз страх і сто затрыманых

# МЕНТ-ПЕРАМЕНТ

*Але вынікам акцыі стала маральная перамога бел-чырвона-белых*

Гарадзкія ўлады не дазволілі арганізатарам зьбіраць моладзь ля Акадэміі Навук, прапанаваўшы забыты богам Кіеўскі сквэр. Нягледзячы на закрыцьцё мэтро "Акадэмія Навук", пад 18-ю на праспэкт ля Акадэміі пачала падцягвацца моладзь. Лідэр "Маладога Фронту" Павал Севярынец паведаміў, што акцыя "Пераменаў!" была зладжаная ў больш чым дзесяці гарадах краіны. Правялі пікеты, вывешвалі сьцягі на вышынных будынках, раскідвалі ўлёткі, правілі расейскія надпісы на шыльдах на беларускія.

А ў Менску тысячы студэнтаў і школьнікаў выйшлі на вуліцы, каб запатрабаваць пераменаў. Пасьля занудная выцьця па-беларуску (у тым ліку і жаночым голасам) пра тое, што "зьбіраццa ў Акадэміі Навук забаронена", для пастрашкі правезьлі дзясятак аўтобусаў з амонаўцамі: былі чамусьці машыны з БАТУ і мотавэлязаводу.

Моладзь рушыла ў бок плошчы Якуба Коласа гэтак шпарка, што сталейшыя ўдзельнікі і журналісты не пасьпявалі за калёнай, якая вылілася на праспэкт. Імкліваму шэсьцю акампанавалі выбухі пэтардаў і салют. Было весела. Першая атака амонаўцаў з праспэкту захлынулася ў імклівым руху — ахвяру, высокага хлопца, што ішоў пападрадзе калёны з бел-чырвона-белым сьцягам, здолелі адбіць.

Карцінны ланцуг амонаўцаў са шчытамі сустрэў дэманстрантаў перад ЦУМам. У "заплямленых" свая музыка – псыхадэлічнае гудзеньне сырэны і барабанны грукат у шчыты. Моладзь рушыла назад, каб пратачыцца да цэнтру праз двары, вуліцы Броўкі і Платонава. Але там ужо падчэквалі засады амону. Іншыя амонаўцы атакавалі з праспэкту.

У аўтобусы і "ўазікі" цягнулі ўсіх без разбору, сіх-тых білі. Затрыманых у аўтобусах ды "ўазіках" павезьлі ў Цэнтральны, Маскоўскі (25 чалавек), Першамайскі, Партызанскі ды Савецкі (30 чалавек, 10 дзяўчат і 20 хлопцаў) РУУСы. Агульная колькасьць затрыманых сягае ста чалавек (вядомыя нам імёны можна знайсьці на старонцы 2).

Сотня затрыманых – такі адказ Лукашэнкі на патрабаваньне "Пераменаў". 100 затрыманых – і ніхто не зьдзіўляецца, не баіцца. Баялася толькі гандлярка з кветкавай крамкі ў пераходзе ля БДПА. На пытаньне пакупніка, чаму яна зачыняе шапік, жанчына адказала: "Бачыце, колькі тут мянтоў і студэнтаў бегае? Гэта ж найстрашнейшыя людзі!".

Уразілі дзьве дзяўчынкі, якія пасьля разгону доўга хадзілі па праспэкце і крычэлі: "Жыве Беларусь!" назло міліцыянтам. Вусатыя дзядзькі з дручкамі доўга бегалі за адчайнымі. Але дзе ж ім за маладымі пасьпець? За імі назірала старэнькая і трэсла кулаком: "Дзіцячыя сьлёзы Вам яшчэ крывёю адліюцца".

**А.Прос.**

## Памяці Мацея Бурачка



Эдвард Падбярэскі ў сваёй віленскай майстроўні

Неўзабаве пад Вільняю, у мястэчку Рукойні, перад будынкам мясцовага самакіраваньня ўсьлед за помнікам Кастусю Каліноўскаму зьявіцца помнік і Францішку Багушэвічу. Менавіта тутака, у цяперашняй Рукойненскай воласьці, знаходзіцца колішні фальварак Сьвіраны. Ініцыятыва ўсталяваць мэмарыял сьлыннаму паэту належыць Таварыству Беларускай Мовы Віленскага краю, якім кіруе сп.Юры Гіль. Працы па стварэньні помніка фінансуюцца за кошт аддзелу культуры ўпраўленьня Віленскага раёну.

Аўтар барэльефа выдатнаму дзеячу беларушчыны — Эдвард Падбярэскі. Працу сваю скульптар зрабіў дабрачынна. Гэты барэльеф неўзабаве будзе зьмешчаны на валізарным валуне, што ляжыць у самым цэнтры Рукойняў. Эдвард Падбярэскі – вядомы ў Вільні беларускі скульптар, аўтар надмагільных помнікаў братам Луцкевічам і Францішку Аляхновічу. Дарэчы, у тых самых Рукойнях, пры старой менскай шашы ўжо стаіць манумэнт да 1000-годзьдзя хрысьціянства работы гэтага славутага скульптара, пра што "НН" ужо пісала сёлета.

**Віленскі**

# Не арыштавалі толькі Купалавага бюсту

*9 лістапада ў Горадні судзілі Пятра Анісімовіча і Міколу Ворана*

Быццам бы на дзень Усіх Сьвятых яны не падпарадкаваліся міліцыі, аблаяўшы яе мацюкамі. Суд апраўдаў абодвух. Дзеля абароны гонару міліцэйскіх мундзіраў, праўда, сп. Ворану далі невялікі штраф — адну мінімалку.

1 лістапада ў Горадні адбылося абуральнае здарэньне. Міліцыя схапіла адразу 23 чалавек. Са словаў аднаго з затрыманых, не арыштавалі толькі помнік. У 17.40-17.45 у цэнтры гораду перад унівэрсытэтам каля помніка Янку Купалу стаяла публіка з запаленымі сьвечкамі, слухаючы вершы паэта, якія чытала адна з жанчын. Раптам адусюль наехала міліцыя — больш за дзесяць машын. Усіх — жанчын і маладзенькіх дзяўчат у тым ліку — пачалі хапаць і запіхваць у машыны. Усё заняло сама больш пяць хвілін. Аднаго з прысутных, мужчыну 58 гадоў, пліцёра міліцыянтаў павалілі тварам у гразь. У той вечар у горадзе ліў моцны дождж. Пратаколы аб адміністрацыйным правапарушэньні былі складзены толькі на дваіх з затрыманых. Навошта схапілі астатніх, не зразумелі, відаць, нават самі міліцыянты.

Спачатку ў судзе разглядалі паводзіны Пятра Анісімовіча. Міліцыйны шафёр сэржант Манкевіч, які яго схапіў удвох з напарнікам — такім жа шафёрам-сэржантам Лабанам, патлумачыў суду, што «Анісімовіч не хацеў сядаць у машыну, размахваў рукамі, хапаўся за форму. Лаяўся і зьневажаў міліцэйскую годнасьць».

А.Антанюк, кіраўнік філіі БГК: «Вы ж не прадставіліся і за што хапаеце — не сказалі».

Міліцыянт: «Ён адмовіўся сядаць у машыну, упіраўся. Людзі яго хапалі за рукі, не хацелі адпускаць. Даваўлося сілай запіхваць».

П.Анісімовіч: «А вы хоць прадставіліся — хто вы?»

Міліцыянт: «А вы ў нас пыталі? Нам паступіла каманда з УУС, ад палкоўніка Конкіна».

Д.Іваноўскі (адзін з затрыманых, сьведка), мастак: «Я сам каталік, а ўсе каталікі ў гэты дзень запальваюць сьвечкі і кладуць кветкі да магіл і помнікаў. Мы прыйшлі, каб ушанаваць памяць Янкі Купалы — сьвятога для беларусаў. А тут міліцыя пачала ўсіх хапаць. На пытаньне «хто і завошта?» нам адказалі — калі ўсіх пасадзяць у машыны, тады і прозьвішчы назавуць».

Лабан: «Прысядзьце, калі ласка. Мы 5 разоў яму паўтарылі. Астатнія грамадзяне прыселі па сваёй волі. Адмовіўся прысесьці ў службовы аўтамабіль — непадпарадкаваньне. Артыкул 166».

У машыне ўжо не было месца, таму Анісімовіч запярэчыў: куды сядаць? Яго жорстка выцягнулі з машыны, начапілі кайданкі і закінулі назад. Справа адносна Анісімовіча спынена, паколькі міліцыянты ня здолелі давесьці, што ён быў у чымсьці вінаваты. Ён нічога не парушаў, — канстатаваў суд.

М.Ворану ў пратаколе панапісалі ўсякага — несанкцыянаванае шэсьце, непадпарадкаваньне, ды яшчэ ён быццам бы нецэнзурна лаяўся і не рэагаваў на заўвагі. Хлусьня ўсё гэта, — сказаў у судзе сам Воран.

**Працяг на старонцы 3.**

# Таямніца брыльянтавага кальле Магдалены Радзівіл,

*айцец Аляксандар Надсан*

РЫХТУЕЦЦА ДА ДРУКУ

*або Гісторыя нязьдзейсьненай мары*

Non mirari, non indignari, sed intelligere

Мінула амаль дваццаць гадоў ад часу, калі аўтар трымаў першы раз у руках дакумэнты, якія ляглі ў аснову гэтага артыкулу. Яны паруцылі ягоны супакой, і ён доўга не адважваўся падаць іх да агульнага ведама. Аднак, чым даўжэй трымаць у сакрэце прыкрую праўду, тым больш балюча ўспрымуць яе людзі, калі даведаюцца...

**Чытайце ў наступных нумарах "НН".**

# Птушатнік зь Верацеяў

Уладзімер Арлоў

Таго, што ня сталася ўражаньнем і ўспамінам, проста не існавала. І ў жыцьці, і ў літаратуры.

Гаворка ня толькі пра падзеі ды зьявы.

Часам я задуменна гартаю тэлефонны даведнік Саюзу Беларускіх Пісьменьнікаў і на кожнай старонцы сустракаю прозьвішчы, якія ня кажуць абсалютна нічога нават мне, "калегу па творчым цэху". Ці існуюць і ці існавалі ўхнія ўладальнікі наагул? Што стварылі, якія ўчынкі зьдзейсьнілі? Можа, іх найвышэйшым творчым узьлётам было падпісаньне ўжо забытай заявы ў падтрымку "саюзнай дзяржавы"?

Жыхара канадыйскага гораду Таронта Кастуся Акулы ў згаданым даведніку вы ня знойдзеце. Можна падумаць, што ён не беларускі пісьменьнік. Або што ў іх там цяжкавата з тэлефонамі.

Але, адрозна ад нялічаных дзясяткаў анікому ня ведамых "беларускіх пісьменьнікаў", Кастусь Акула існуе. Ужо 75 гадоў. (Цікава, дарэчы, ці засьведчыць гэты факт газэта "Літаратура і мастацтва"?)

"Далёкі й загадкавы Акула" (словы Васіля Быкава з аўтографу на "Сьцяне") праз усё жыцьцё пакідае за сабою яскравыя ўражаньні ды ўспаміны.

Двухмэтровага беларуса, што ніколі не саромеўся свайго паходжаньня, а нацыянальны гонар мог абараніць не абы-якімі кулакамі, памятаюць вэтэраны 2-га польскага корпусу Восьмай брытанскай арміі, разам зь якімі ён ваяваў у 1945-м на Апэнінах.

Яго часта згадваў былы курсант танкавай школы падхаронжых у Ёркшыры князь Юры Радзівіл, што не прамінаў выпадку распытаць Кастуся пра радзіму продкаў.

**Працяг на старонцы 9.**



«Краёўцы» ставяць крыж у Слоніме.

## Затрыманьні

Пазаўчора ў Менску міліцыянты схапілі пэнсіянэрку Алену Ярмошанку. 62-гадовая жанчына клеіла налепкі з заклікам прыходзіць на акцыю "Пераменаў".

Учора ў Горадні затрымалі каля 20 удзельнікаў пікету "За перамены". У 15.15 затрымалі Сьвятлану Нех ды Андрэя Мялешку — завадатараў. Праз колькі хвілінаў пад'ехаў аўтобус з амапаўцамі, якія пачалі хапаць усіх, хто меў плякаты ды сьцягі.

Сярод затрыманых учора ў Менску за ўдзел у акцыі "Пераменаў" Андросаў Алесь, Астапчук Сяргей, Атрошчанка Сяргей, Атрошчанкаў Цімох, Балук Антось, Бурацкі, Вітушка, Вянярскі Максім, Гетман Павал, Дзятовіч Віталь, Жарко Аляксей, Зялёткін, Каліна Аляксандар, Куніна Мара, Макееў Аўген, Мікалайчык Аляксей, Мятліцкі Павал, Савіч Павал, Севярынец Павал, Сіліцкі Антон, Старыковіч Уладзімер, Стральцоў Алесь, Філіповіч Алесь, Хоміч, Чарняўскі Зьміцер, Шаўцук Андрэй, Шмялёў Сяржук, Яроменка Дзяніс.

Сярод затрыманых – Ян Цітовіч, артыкул якога мы якраз друкуем на старонцы 6. Імёны іншых затрыманых пастараемся паведаміць у наступным нумары. На момант здачы нумару яны нам былі яшчэ невядомыя.

У суботу ў Барысаве за ўдзел у несанкцыянаваным пікеце былі затрыманыя непаўналетнія Міхась Кузьняцоў, Алена і Марына Ясюк.

### ДВА НОВЫЯ КРЫЖЫ

Рэйдавая група арганізацыі "Край" і Слонімскі аддзел "Краю" усталявалі крыж у гонар удзельніка паўстаньня 1830—31 г. Міхала Валовіча і яговых паплечнікаў побач зь вёскай Парэчча, што ля Слоніму. Удзельнікі акцыі прайшлі шэсьцем з крыжом праз вёскі Васілевічы і Парэчча да зруйнаванай царквы. Ля царквы паставілі крыж у гонар паўстанцаў. Уніяцкі сьвятар асьвяціў яго ды адслужыў малебен за беларускі народ. А ў Шарашове, што на Пружаншчыне, паставілі крыж на магіле Міхала Баброўскага — навукоўца, сьвятара, выкладчыка Віленскага ўнівэрсытэту. Тут таксама адслужыў малебен уніяцкі сьвятар.

### У ААН НАПЕРАД БАЎГАРАЎ

Беларусь хоча ўвайсьці ў склад сталых чальцоў Рады бясьпекі ААН. Баўгарыя - другая прэтэндэнтка на гэтае месца. Галоўная ўмова перамогі - унёсак краіны ў захаваньне сусьветнага міру ды бясьпекі. Баўгарыя была ў Радзе бясьпекі двойчы, а мы толькі адзін раз. Апошні раз мы супернічалі за месца ў Радзе з чэхамі і прайгралі з годным лікам.

### ЛУКАШЭНКА ДЗЯКУЕ ФСБ

Падчас гутаркі зь Сяргеем Лебедзевым, дырэктарам Фэдэральнае службы замежнае выведкі Расеі, Лукашэнка прылюдна падзякаваў яму за «аналітычныя і апэратыўныя матэрыялы, якія рэгулярна паступаюць з Масквы» і «дазваляюць спакойна перажыць самыя сур'ёзныя падзеі». Паводле расейскіх законаў Лебедзеў мае права дакладаць адно Пуціну. Лебедзеў сумеўся. У Расеі гэтая заява Лукашэнкі выклікала скандал.

### СТРАЙКІ НАСТАЎНІКАЎ ДЫ ПРАДПРЫМАЛЬНІКАЎ

Фэдэрацыя Прафсаюзаў кажа, што вялікая акцыя пратэсту супраць падзеньня ўзроўню жыцьця, хутчэй за ўсё, пройдзе ў студзені 2001 году. Настаўнікі ўжо зьбіраюць подпісы пад пратэстам супраць зьбядненьня ды кажуць пра магчымасьць спыненьня працы. А прадпрымальнікі вырашылі правесьці 23 лістапада аднадзённы папераджальны страйк.

### ПІКЕТ КАЛЯ РАСЕЙСКАЙ АМБАСАДЫ

8 лістапада сваякі чатырох беларусаў, якія паехалі будаваць Вілюйскую ГЭС-3 у Якуціі, але ў выніку падману засталіся бяз грошай і без жытла, пікетавалі расейскую амбасаду ў Менску, бо ні расейскія, ні беларускія ўлады дапамагаць ім не жадалі. Адну з жанчын прынялі ў амбасадзе ды паабяцалі дапамагчы. Пасьля міліцыянты адвезьлі ўсіх удзельніц пікету (гэта былі спрэс жанчыны) ува ўпраўленьне ўнутраных спраў Цэнтральнага раёну, дзе на трох зь іх (хто меў пры сабе плякаты) склалі пратаколы за парушэньне грамадзкага парадку - несанкцыянаванае пікетаваньне. Суд Цэнтральнага раёну вынес ім папярэджаньні.

### РАСЕЯ АДМЯЖОЎВАЕЦЦА

8 лістапада расейскі прэзыдэнт Уладзімер Пуцін сказаў на нарадзе ў Растове-на-Доне, што "зараз практычна няма паўнацэннай мяжы з краінамі СНД, але такая мяжа будзе". Пра нейкую асаблівую мытную ды міграцыйную палітыку ў адносінах да Беларусі Пуцін не казаў нічога.

### ЗБРОЯ ДЛЯ АРМЕНІІ

Беларусь і Арменія пастанавілі падпісаць пагадненьне аб узаемных пастаўках узбраеньня і вайсковай тэхнікі. Наш Саўмін ужо ўхваліў яговы праект. У першай палове 2001 году генэрал-палкоўнік Аляксандар Чумакоў паляціць дамаўляцца ў Ерэван.

### АБРАЗ СКРАЛІ І ЗНАЙШЛІ

7 лістапада са Сьвята-Мікалаеўскай царквы ў Берасьці скралі абраз з выявай Міколы Цудатворца. А 16 гадзіне пабачылі, што ён зьнік. Пільныя бабулі ў царкве ўзгадалі падазронага незнаёмца, дапамаглі скласьці яговы фатаробат. Праз дзьве гадзіны злодзея, які хаваў ікону пад пахай, схапілі ў месьце. Усяго з пачатку году на берасьцейскай мытні затрымалі 559 абразоў, якія везьлі за мяжу. Кантрабанду вязуць амаль выключна цягніком № 9 Масква - Варшава.

### ГРОШЫ ДЛЯ ПАЖАРНЫХ

Гомельскія ўлады выдзелілі пажарным 350 мільёнаў рублёў, каб тыя набылі сабе новую тэхніку: аўтамабіль хуткага рэагаваньня, аварыйна-ратавальны аўтамабіль і вышынную лесьвіцу даўжынёй 50 мэтраў. На Гомельшчыне 114 вышотных будынкаў, таму лесьвіца будзе вельмі дарэчы. Гэткую ж мае ў тым рэгіёне толькі Беларускі мэталюргічны завод.

### НАЙЛЕПШЫ ФУТБАЛІСТ

27-гадовага паўабаронцу нацыянальнай зборнай Беларусі і кіеўскага "Дынама" Аляксандра Хацкевіча прызналі лепшым футбалістам Беларусі 2000 г. паводле апытаньня, якое наладзіла газэта "Прэсбол". Другое месца мае яговы аднаклюбнік Валянцін Бялькевіч, трэцяе — нападаючы мазырскай "Славіі", лепшы бамбардзір апошняга чэмпіянату краіны Раман Васілюк.

### ВОЛЬНАЯ ВУЧОБА Ў МАГІЛЁВЕ

6 лістапада ў Магілёве прэзэнтавалі праект "Вольная кляса". Яго ладзіць мясцовая філія Маладога Фронту сумесна з "Таварыствам філяматаў". Вядомыя навукоўцы і выкладчыкі зь Менску і Магілёва будуць выкладаць вучням старэйшых клясаў ды студэнтам гісторыю і культуру Беларусі, эканоміку, паліталёгію, права, журналістыку, экалёгію ды ангельскую мову.

**Падрыхтаваў Алесь Кудрыцкі паводле паведамленьняў карэспандэнтаў "НН" і агенцтва БелаПАН**

### ПЕРАМЕНЫ ПАЧАЛІ З ТЭАТРУ

Магілёўскія маладафронтаўцы адзначылі ўдзел у акцыі "Пераменаў" працай на будоўлі драматычнага тэатру. Эпапэя з рэканструкцыяй больш чым стогадовага будынка дагэтуль ня скончылася. Тыдзень таму стала вядома, што заплянаванае адкрыцьцё зноў пераносіцца на наступны год. І гэта пры тым, што будуюць па найтаньнейшым праекце. У выніку тэатральныя калідоры зьбіраюцца абліцоўваць белай пліткай, больш прыдатнай для прыбіральні.

Дзесяць маладафронтаўцаў прыйшлі папрацаваць у якасьці будаўнікоў. Некаторыя з рабочых прынялі маладафронтаўцаў за цімураўцаў. Але нікога не прагналі, кожнаму знайшлося што рабіць. Хлопцы будуць тутака працаваць штосуботы да самага адкрыцьця аднаўленага храму Мэльпамэны.

### КАШТАНЫ ЗАМЕСТ ТАПОЛЯЎ

Магілёўскія эколягі распачалі акцыю "Каштан". Вучні трох мясцовых школ разам з выкладчыкамі на заклік эколягаў сабралі амаль паўтоны каштанаў. Звычайна каштаны гніюць у лужынах ці згараюць у кучах сьмецьця. На гэты раз іх чакаў іншы лёс. Сабраныя 3 мяхі, 4 пакеты і 2 скрыні з пладамі стануць асновай для закладкі каштанавага гадавальніка. Усе ведаюць, як гарады ў нас засаджваліся таполямі, што дадало працы дворнікам, дый астматыкам і алергікам не прынесла нічога добрага. Мясцовы зялянгас прыняў сабраны ўраджай і паступова будзе замяняць таполі каштанамі.

**Сымон Глазштэйн, Магілёў**

# Зразумець сябе

## *Пра новы фільм Кшыштафа Занусі і ня толькі*

**Імя польскага кінарэжысэра Кшыштафа Занусі добра вядомае ня толькі ў Беларусі. Прызнаны клясык эўрапейскага кіно – адзін зь нешматлікіх інтэлектуалаў, хто дагэтуль падтрымлівае сувязь зь Беларусьсю. Ён нярэдка гасьцюе ў нас. У Менску ён мае вучняў, маладых людзей са сьвету кіно. І гэта важна ня толькі таму, што Занусі – майстар найвышэйшай клясы. Ён мудры чалавек, які ўвесь час напружана разважае над найгалоўнейшымі чалавечымі каштоўнасьцямі.**

Сямён Букчын

У Польшчы добра ведаюць Занусі-публіцыста, які сьмела й вострa бярэцца за самыя балючыя і далікатныя праблемы жыцьця польскага духу. Занусі змагаецца са стэрэатыпамі нацыянальнага ўспрыманьня і даводзіць, што "польскае" можа быць вельмі розным. Каб выразней увіісаць пазыцыю вядомага кінарэжысэра, дазволю сабе вялікую цытату зь яговага нядаўняга эсэ:

*"Польскасьць – традыцыя гэтага народу, гэтага грамадзтва, гэтай краіны, зь якой яна беспасярэдна зьвязаная , – адначасна перапляталецца, як у кожным грамадзтве, з пэўным грамадзкім словам. Таму нельга сьцьвярджаць, што ёсьць адна-адзіная польская традыцыя для ўсіх – іх, гэтых традыцыяў, мноства, яны дастаткова разнастайныя. Часам яны яднаюцца, але няма такога кола, якое б аб'ядноўвала ўсё, што можна назваць польскім.*

*Я выдатна ведаю, як часта, калі гаворка заходзіць пра нацыянальныя стэрэатыпы – пра тое, што ў агульным уяўленьні азначае нацыянальную існасьць народу – праблема грамадзкая пераплятаецца з праблемай нацыянальнай. Асабліва часта я сустракаюся з гэтым, калі працую ў Нямеччыне. Там я часта бачу даволі пагардлівае стаўленьне да сябе, бо там гэта характэрна ў дачыненьні да людзей з Усходу. Я ведаю, што не магу бараніцца, спасылаючыся на Капэрніка, бо адкажуць, што той немец, на Шапэна – бо ім і без таго вядома, што ён француз, на Марыю Складоўскую-Кюры – бо запярэчаць, што яна атрымала Нобэлеўскую прэмію дзякуючы мужу. Затое я добра ведаю, што калі хачу прыперці немца, які дэманструе перада мною нейкую вышэйшасьць, дык лепей за ўсё расказаць яму нешта з гісторыі маёй сям'і. Рэч у тым, што мой бацька да вайны ня меў аніякай варожасьці да немцаў. У яго служыў нямецкі шафёр, была нямецкая прачка, дарэчы, вялікая чысьцёха й вельмі акуратная. Калі я гэта расказваю, то бачу, як разлазіцца па швох нацыянальны стэрэатып. У вачох немца я польскі плебэй, але як пачынаю пераварочваць стэрэатып і казаць пра плебэя нямецкага, дык любы немец адчувае страшнае зьдзіўленьне: як гэта – нямецкі плебэй служыў у паляка? І гэта яшчэ раз даводзіць, што разбурэньне стэрэатыпаў грамадзкіх не супадае з разбурэньнем нацыянальных".*

І яшчэ, зьвяртаючыся ўжо беспасярэдна да польскай нацыянальнай традыцыі, Занусі адзначае: *"Найчасьцей мы любім згадваць як нашу сапраўдную спадчыну высакародныя шляхецкія традыцыі, мы гаворым пра тое, што люба нашаму сэрцу, і замоўчваем тое, што зусім ня красіць нас ува ўласнай гісторыі".*

Гэтае эсэ Занусі згадалася мне, калі я прачытаў у "Народнай волі" горкі артыкул нашага кінарэжысэра Віктара Дашука пра тое, як расчараваўся ён у сваім народзе, і дзе ён называе гэты народ "халуйскім". Я ня маю жаданьня спрачацца з Дашуком найперш таму, што добра разумею яго. Я ня маю жаданьня прыводзіць іншыя прыклады, якія б сьведчылі, што беларусы зусім ня нацыя халуёў. Іх досыць у даўняй і найноўшай гісторыі. Хачу толькі нагадаць, што ня толькі "польскае", але й "беларускае" — вельмі рознае. І таму боль Віктара Дашука – таксама адзін з стэрэатыпаў. Клясьці свой народ, выкрываць яговае халуйства – даўняя і ганаровая традыцыя, перад якой я здымаю шапку. Калі Лермантаў мог сказаць: "Страна рабов...", дык чаму ж Дашуку нельга пра сваіх?..

Вядома, паэзія мае свае законы. Але ці шмат гэтая традыцыя тлумачыць у публіцыстыцы? Наймаш больш мяне прыцягвае імкненьне зразумець, чаму ж гэтак, а не інакш усё складаецца... Вядома, і я маю свае адказы. Адзін зь іх у тым, што народ ня можа гадамі жыць на плошчы, на мітынгу, хадзіць бясконцымі маршамі свабоды. Народ мае права на стомленасьць, на змардаванасьць, як любы чалавек, што яго складае. Беларусы змучаныя – гэта факт. І шыльда "халуі" ня выкліча нацыянальнага ўзрушэньня. А што

# Не арыштавалі толькі Купалавага бюсту

## *9 лістапада ў Горадні судзілі Пятра Анісімовіча і Міколу Ворана*

Працяг са старонкі 1.

Схапілі за шыю, заламалі рукі, пацягнулі, як бервяно. А я ім: прадстаўляйцеся! У РАУС адмовіўся ад пратаколу на расейскай мове, каб усё — толькі па-беларуску. «Раз так — зоймемся з табою асобна», — паабяцалі. Хвілін праз 15 прынесьлі пазоў у суд — на ўкраінскай мове!

А вось тлумачэньні «сьведак», якія хапалі Ворана. Памочнік камандзіра ўзвода старшына Сезень — «Паступіла каманда — усім нарадам на вуліцу Ажэшкі. Каля помніка стаялі людзі, сабраўся народ. Усіх удзельнікаў мітынгу — даставіць. Выбралі яго з-за атрыбутыкі — бел-чырвона-белы банцік на грудзі... Мы прадставіліся і прапанавалі прайсьці. Пачаў выражацца нецэнзурнай лаянкай. Прапанавалі прэкраціць выражацца. Было нарадаў многа. Затрымлівалі ўсіх навокал. А ў адказ — сукі, сабакі, нецэнзурная лаянка. З горам напалам падвялі да машыны, падштурхнулі. Не сказаць, што моцна ўпіраўся, але не хацеў».

А.Антанюк: «На якой мове выражаўся?»

Міліцыянт: «Сукі, сабакі. Ну, як беларускі чалавек можа выражацца? Па-беларуску».

А.Антанюк: «Ну, а што вы ўбачылі каля ўнівэрсытэту? Якія парушэньні парадку?»

Міліцыянт: «Каля помніка — з атрыбутыкай, сьцягамі, стаяць і гутараць».

Прапаршчык Хілько: «Паводзіўся вызываюшчэ — сабакі пазьбягаліся, нецэнзурная лаянка. Лаяўся, выражаўся. Біўся, крычаў, на заўвагі не рэагаваў. Халуі, сабакі».

Судзьдзя: «Нецэнзурна лаяўся?»

Міліцыянт: «Паводзіўся нагла, вызываюшчэ. Мы паспрабавалі па-беларуску: прайдзіце ў аўтамашыну. Упіраўся, не хацеў. Крычаў — пусьціце, не круціце рукі!».


IREX-PROMEDIA

Суддзя: «Гэта гучала як просьба?»

Міліцыянт: «Чаго круціце рукі?! і — мат».

А.Антанюк: «На якой мове?»

Міліцыянт: «На нашай».

А.Антанюк: «У чым была ягоная віна? Каб не было каманды, вы б яго затрымлівалі? Ці былі падставы?»

Міліцыянт: «Па-першае, быў сьцяг — недзяржаўная сімволіка. Па-другое — бант».

Тлумачыць міліцыянтам, што, напрыклад, сьцяг Маладой Грамады, зь якім прыйшла моладзь, — зарэгістраваны, не было сэнсу. Ясна было, што каб паступіла каманда хапаць усіх лысых альбо рудых ці мужчын пад капелюшамі — хапалі б не задумваючыся. Міжволі ўспамінаецца падобная камічна-злавесная сцэна з прызабытага грузінскага фільма «Пакаяньне».

Мікола не хаваў свайго абурэньня: каб прыйшлі ўскладаць кветкі да помніка якому-небудзь расейскаму паэту, міліцыя толькі спрыяла б. Сапраўды, праз вуліцу ўскладаюцца кветкі зь бела-чырвонымі стужкамі да помніка А.Арэшкавай, і ніхто нікога не хапае. Побач у парку адбываюцца падобныя мерапрыемствы зь незарэгістраванымі чырвонымі сьцягамі, і міліцыя іх спакойна ўспрымае, нават удзельнічае.

Па справе Ворана было апытана пяцёра сьведкаў. Адзін зь іх, А.Міхальчык, выказаўся даволі літаратурна: «Кінуліся на нас, як зграя ваўкоў. На мяне асабіста, паваліўшы, селі пяць адкормленых міліцыянтаў — кілаграмаў па 80». У сп.Міхальчыка падчас гэтай акцыі зьнік гадзіньнік. Можа, проста раменьчык разарваўся. Сябры параілі: пайдзі пашукай каля Купалы. Але ён сказаў: хай яны самі шукаюць — і напісаў скаргу начальніку РАУС.

Адносна Ворана прысуд быў даволі мудрагелісты: міліцыянты дзейнічалі незаконна, таму лаянка цалкам апраўдана. Але лаяцца ўсё адно нельга, значыцца — штраф.

Міліцыянты, якіх у судовай залі было каля дзесяці, напачатку адкрыта сьмяяліся. Але пасьля першага прысуду, невыгоднага для іх, замоўклі. Бо калі людзі не вінаватыя і ніякага непадпарадкаваньня не было, значыцца, вінаватыя тыя, хто склаў хлусьлівыя рапарты. Пацярпелыя будуць зьвяртацца ў гэтай справе ў пракуратуру. Карацей, сэржанты мелі магчымасьць пераканацца, што начальства іх падставіла. А можа, і начальства хто падставіў? Адзін міліцыянт шэптам патлумачыў, што сапраўдная каманда зрабіць хапун паступіла ўвогуле з Канторы.

**Сяргей Астраўцоў**

### Удакладненьне

У інфармацыі пра затрыманых у Горадні на Дзяды Ўладзімер Хільмановіч, старшыня Гарадзенскага Фонду імя Лява Сапегі, быў памылкова названы Зьмітром. Перапрашаем.

# Дзень сьвятога Язафата




Полацкая грэка-каталіцкая парафія яшчэ ніколі ня ладзіла такога фэсту. 11 лістапада на ўрачыстасьць сьв. Язафата Кунцэвіча ў Полацак прыехалі: з польскага Перамышля — уніяцкі мітрапаліт Ян Мартыняк, з Украіны — кіраўнік усіх супольнасьцяў манахаў студыцкага ордэну ігумен Бенядзікт (менавіта ён у сярэдзіне 90-х наладжваў у Полацку жыцьцё ўніяцкай суполкі і пабудаваў тутака царкву сьв.Параскевы Полацкай), каталіцкі біскуп Віцебскі Уладыслаў Блін, а зь Менску – архімандрыт Сяргей Гаек. На двух аўтобусах з Горадні і Менску прыехалі вернікі. Аб 11-й у царкве сьв.Параскевы Полацкай пачалося набажэнства. Скончылася яно казаньнем мітрапаліта Яна Мартыняка. На наступны дзень урачыстасьці прадоўжыліся ў Віцебску.

Рыхтуючыся да гэтага дня, полацкія грэка-каталікі зьвярнуліся да віцебскіх уладаў, каб тыя ў дзень урачыстасьцяў дазволілі ў Сафійскім саборы правесьці канцэрт гарадзенскага хору "Бацькаўшчына". Вядома, дазволу ўніяты не атрымалі. Затое раптам у храме сьв.Сафіі 11 лістапада пажадалі наладзіць набажэнства з нагоды 2000-годзьдзя Нараджэньня Хрыстовага праваслаўныя. У горадзе пра гэта стала вядома толькі 8 лістапада. Дасюль Сафійскі сабор для рэлігійных службаў выкарыстоўваўся ўсяго пару разоў – толькі на самыя вялікія сьвяты. 11 лістапада ў праваслаўных увогуле не было ніякіх нагодаў што-кольвечы адзначаць. 2000-годзьдзе хрысьціянства ў Полацку сьвяткавалі яшчэ летам. Каб чарговы раз згадаць пра юбілей, мітрапаліт Філарэт прыехаў у Полацак з двума пасламі – Нямеччыны і Грэцыі. Праваслаўныя ярархі гэтымі днямі зноў узьнялі гучную гамонку пра вяртаньне Сафійскага сабора ўва ўлоньне БПЦ.

**Васіль Кроква, Полацак**

# Залаты швагер

## *прасьпяваў "гімн XX стагодзьдзю"*

Нарэшце скончыўся "Міжнародны музычны фэстываль "Залаты шлягер", што цэлы тыдзень цешыў сэрцы савецкіх грамадзян. Вось жа, як у прыказцы, ды наадварот: рэтра-клоўны зьехалі, а іхны цырк застаўся.

Чымсьці ўсё ж гэтае шаблённае мерапрыемства зьдзівіла: акрамя сталых выканаўцаў, да "Швагра" ў госьці завіталі і калісь сусьветна вядомыя поп-зоркі: Тота Кутуньё ды гурт "Eruption" ("Deep Purple", далібог, прыехаў зь іншай нагоды). Мядовагалосы італьянец наладзіў "супэршоў", дзе ўразіў прысутных маркотнікаў сваёй надзвычайнай сымпатыяй да беларускіх дзетак: сабраў іх з паўсотні і "ў дзіцячым натоўпе перамяшчаўся па залі", як піша "СБ". Упершыню прыехаў на імпрэзу Бюль-Бюль аглы, што вось ужо 12 год нікому не аддае партфэль міністра культуры Азэрбайджану. Аблажалася састарэлая сэкс-зорка Сафія Ратару: пела, пела свой "Месяц", ды раптам музыка абарвалася. Сафія прыпала на каленца, урачыста адвяла мікрафон, а "фанэра", халера, вазьмі й заграй наноў. Во дзе Рыгоравіч прысароміў арганізатараў, мабыць... На музычную машыну часу (з адным накірункам палётаў – у сьветлае мінулае) прыехаў і расейскі гурт з аднайменным назовам: час усё-ткі прагнуўся пад цяжарам падсівелых выканаўцаў.



Каб ужо зусім не заімшэць, у "шваграву" хату завітаў і "швадрон" маладых сьпевакоў: усяго 21 вакаліст з 16 краінаў сьвету. Каб падлесьціць палітычна звышпрынцыповым Штатам, журы – ці не па падказцы – аддало Гран-пры маладога конкурсу каліфарнійцу Антоньё Мартынэсу, які вярнуў на месца эмісіі 2000 амэрыканскіх рублёў. Прэміяваная кампазыцыя звалася звышарыгінальна – "Kiss Me": гэта вам не занюханы "Californication". Лепшым мужчынскім голасам прызналі, аднак жа, беларуса Анатоля Алеха. Цікава, а якім голасам сьпяваў амэрыканец?

Даляры вярнуліся ў ЗША, а колішні мянчук Якаў Яўно – на Радзіму, дзе, дзякуючы прамоўшану Дунаеўскага, прасьпяваў талерантнаму насельніцтву пару-тройку жыдоўскіх лірычных песень.

Гледачы ўсё "бісіравалі" ды "бісіравалі", а "Ahmad Tea" сваю гарбату "пэдаліраваў": за адзін канцэрт прызвычаеныя за саветамі да халявы беларусы выжлукчвалі ажно па 20 літраў гэтага напою.

А БТ прыехала да "Швагра", каб зьняць наваготнюю перадачу ("А мужики-то не знают!"), бралі "эксклюзыўныя" інтэрвію на фоне ўпрыгожанай ялінкі. Ялінка ялінкай, а вось "шампунем", як пішуць, так нікога з суразмоўцаў і не пачаставалі.

На Менску з Магілёвам фэстываль, як выявілася, ня скончыцца: галя-канцэрты адбудуцца ўва ўсіх буйных местах СНД, а заключны рэтра-нумар пройдзе, дзе й мае быць – у крамлёўскім Палацы зьездаў. 19 сьнежня. А Кутуны з "Ірапшанамі" думалі, што на тыдзень завіталі, ня болей. Не ўжо, трэба па-славянску – дзе "біс", там і "трыс", і "кятурыс".

Цікава адзначыць, што наш "Швагер" шчэ зусім малады – яму толькі 6 год. Столькі ж Лукашэнка сядзіць у прэзыдэнцкім крэсьле. З гакам, праўда.

**А.Уцюговіч**

яго выкліча? Гэтага я ня ведаю. Я не прарок.

Але вось нядаўна глядзеў фільм Занусі "Жыцьцё як сьмяротная хвароба, што перадаецца полавым шляхам". Карціна атрымала Гран-пры на апошнім Маскоўскім фэстывалі. Герой, доктар Бэрг (яго грае выдатны актор Зьбігнеў Запасевіч), сьмяротна хворы – рак лёгкіх. Усё жыцьцё ён пражыў эгаістам, нікому не было ад яго цёпла. Ён ведае, што па сьмерці ён не пакіне ані заплаканых дзяцей-сіротаў, ані забітай горам жонкі. Але гэтаму цыніку-атэісту шкада разьвітвацца з жыцьцём. Ён бунтуецца, імкнецца супакоіць сваю гардыню спробай самагубства. Мноства пытаньняў задае сабе доктар Бэрг і не знаходзіць адказу ля парогу, за якім сьмерць. І толькі сустрэча з маладой парай нібыта сьведчыць пра душэўную перамену. Перад сьмерцю ён прымірaецца зь непазьбежным...

А пачынаецца фільм сцэнай з жыцьця сярэднявечнай Францыі. Празь вёсачку едзе на восьліку сьвяты Бэрнард. І бачыць ён, як сяляне вядуць вешаць канакрада. Той выдзіраецца, крычыць. Манах просіць сялянаў, каб яны дазволілі яму паразмаўляць са злодзеем. Не, ён ня думае прасіць іх пра памілаваньне. Ён хоча падрыхтаваць чалавека да сьмерці. І вось канакрад, спакойны, заміраны, вяртаецца да сваіх катаў і стае пад дрэва, зь якога зьвісае пятля...

І раптам мы бачым, як гэтую сцэну здымае ў Польшчы француская кінагрупа, занятая фільмам пра сьвятога Бэрнарда. Доктар, што назірае за здымкамі, пытаецца ў рэжысэра, ці сапраўды ў гістарычнай "Хроніцы пра сьвятога Бэрнарда" ёсьць згадка пра тое, як ён рыхтаваў да сьмерці вясковага канакрада. Высьвятляецца, што ў "Хроніцы" нічога пра гэта няма. Манах, што прысьвяціў сябе Богу, ведае напэўна, што сьвяты Бэрнард зрабіў менавіта гэтак. Але для большасьці людзей гэтае пытаньне застаецца без адказу. То як жа, сапраўды, можна пагадзіцца з сыходам з жыцьця, перамагчы ўласны страх, шкадаваньне самога сябе, самую прагу жыцьця?

Вось такое кіно ў кіно... Новы фільм Занусі ня толькі пра доктара Бэрга. Ён найперш пра тую экзыстэнцыйную трывогу, якая мусіць мучыць кожнага чалавека. Бо бяз гэтых пакутаў няма чалавека. Бо кожны з нас, сыходзячы, забірае з сабою цэлы сьвет.

Спазнаць гэты сьвет, дакрануцца да яго – вось тое, магчыма, адзіна чалавечае, што важней за ўсё ў жыцьці...

Беларусы-героі, беларусы-халуі, беларусы прыходзяць (адраджэньне), беларусы сыходзяць (выміраньне, канфармізм, Чарнобыль)... Колькі ўжо пісалася і чыталася пра гэта! Высакародных штампаў можна набраць безьліч. Але ёсьць канкрэтны чалавек. Доктар Бэрг. Ці назавём неяк па-беларуску... І яму важна ўсьвядоміць сваю сапраўдную існасьць. І тады ён прымірaецца. Гэта значыць, робіцца чалавекам. Менавіта ў гэтым сэнсе фільм Кшыштафа Занусі і пра нас, беларусаў.

Хочацца спадзявацца, што гэты тэкст ня будзе ўспрыняты як заклік да замірэньня з тым жыцьцём, якое многія цяпер клянуць. Але спазнаньне сябе – гэта ўсё ж справа не калектыўная. І, магчыма, там, на самым ускрайку, з чалавекам, а значыць, і з народам адбываецца сапраўды нешта важнае. Хто ведае...

# Першая прэзыдэнтка

## *Хто зробіцца прэзыдэнтам ЗША – Гор ці Буш? Найбольш пэўны адказ – Гілары Клінтан*




Няпроста прагназаваць, калі ж урэшце абвесьцяць вынікі гэтых выбараў у Амэрыцы. Іншая справа – зазірнуць на чатыры гады наперад. Адна з магчымых кандыдатак на выбарах-2004, Гілары Клінтан, робіць сабе бліскучую палітычную кар'еру. Ніколі дагэтуль першая лэдзі не праходзіла ў сэнат. 9 лістапада Гілары набрала тры з паловай мільёны галасоў (55%) на выбарах у сэнат у штаце Нью-Ёрк. Ейны супраціўнік Рык Лацыё – толькі 2,6 мільёны (43%). Гэта вельмі адчувальная перамога, бо штат заўжды лічыўся фарпостам рэспубліканцаў.

У сэнаце ня так шмат жанчынаў, пагатоў першых лэдзі. Магчыма, Ал Гор усё-ткі прайграе на выбарах, Гілары зробіцца вядучым голасам дэмакратаў ва ўладзе.

### МОЦНАЯ ГІЛ

Гілары – моцная жанчына. Некаторыя нават лічаць яе жорсткай. Гю Родгем, бацька Гілары, інструктаваў рэкрутаў падчас другой сусьветнай, а потым займеў прыбытковы бізнэс у Чыкага. Калі малая Гіл прынесла яму школьны дзёньнік, дзе было спрэс "выдатна", той прамовіў: "Відаць, ты вучышся ў вельмі лёгкай школе". Калі Гілары прыбегла ў сьлязах дадому пасьля бойкі зь іншай дзяўчынкай, маці заявіла, што ў іх доме няма месца баязьлівіцам. Што зрабіла Гілары? Пайшла ў школу ды адлупцавала непрыяцельку. Магчыма, з-за такога стаўленьня да сябе адзін з галоўных акцэнтаў у сваіх праграмах Гілары робіць на ахове правоў дзіцяці. А колькі моцы спатрэбілася, каб зарабляць грошы на будучыя кампаніі Біла, пакуль той кіраваў Арканзасам ды круціў раманы! У гэты час часопіс "The National Law Review" двойчы прызнаў яе самай уплывовай юрысткай краіны.

Клінтан вырашае балятавацца ў прэзыдэнты. "Я не жадаю заставацца дома, пячы пірагі ды запарваць гарбату", — кажа яганая жонка. Апанэнты адразу ўхапіліся за гэтыя словы, дужа крыўдныя для жанчын, што ўвесь свой час аддаюць сям'і. Гілары палічыла, што яе актыўнасьць і сапраўды не заўжды дарэчы, і падчас другога тэрміну прэзыдэнцтва Біла зноў пачала гуляць ролю першай лэдзі, а ня першага палітычнага кансультанта.

### НЯ МІСІС КЛІНТАН, А ГІЛАРЫ КЛІНТАН

Можа таму, што яна даўно жадала, каб пра яе думалі ў першую чаргу як пра Гілары Клінтан, а ня місіс Клінтан. У пятніцу, на тле выбарчага крызісу, яна заявіла, што будзе дамагацца зьмяненьня канстытуцыі, а менавіта ліквідаваньня інстытуту выбарцаў. Цяпер сыстэма такая: спачатку паспалітыя амэрыканцы галасуюць на выбарчых участках. Галасы падлічваюць, і ў студзені 538 выбарцаў – прадстаўнікоў насельніцтва – зьбіраюцца ў сталіцах штатаў, каб фармальна абраць прэзыдэнта. Калі за кандыдата аддае галасы большасьць насельнікаў штату, ён атрымлівае ўсе галасы выбарцаў, нават калі апярэдзіў свайго супраціўніка толькі на адзін бюлетэнь. Лёгіка падказвае, што выбарцы павінны галасаваць адпаведна з жаданьнем жыхароў штатаў. Але так атрымліваецца не заўжды. У 1876 г. за Сэмюэла Тайдэна, кандыдата ад дэмакратаў, прагаласавала большасьць жыхароў ЗША, але выбарцы аддалі яму на адзін голас менш, чым яганаму канкурэнту рэспубліканцу Рэзэрфорду Гейсу, які і зрабіўся прэзыдэнтам. Гілары хоча пазбавіцца выбарцаў. Але тут ёсьць адна акалічнасьць: выбарцы – адзін з атрыбутаў незалежнасьці амэрыканскіх штатаў ад фэдэральнага цэнтру. Калі іх ня будзе, кандыдаты стануць змагацца не асобна за галасы жыхароў пэўнага штату, а за галасы ўсіх амэрыканцаў. Словы "Арызона галасуе за..." страцяць свой зьмест. Амэрыка пачне набліжацца да ўнітарнасьці, што спадабаецца далёка ня ўсім; асабліва нецаспадобы гэта будзе жыхарам паўднёвых штатаў накшталт Тэхасу. Ці сапраўды гэта ўмацуе адзінства краіны? Вырашыць прэзыдэнтка.

**Алесь Кудрыцкі**

# Згубленыя ў вяках

## *Праз тысячу год па страце дзяржаўнасьці народ мая адраджае сваю вялікую культуру*

Калі гаворыцца пра цывілізацыю мая, многія згадваюць пра схаваныя ў сэльве Цэнтральнай Амэрыкі старажытныя таямнічыя піраміды. Гэтыя велізарныя каменныя пабудовы закінутыя больш за тысячу год таму, але нашчадкі тых, хто будаваў піраміды, жывуць дагэтуль. Праз тысячагодзьдзе па зьнікненьні свае дзяржавы гэты старажытны народ спрабуе адрадзіць сваю культуру – і зноў адчуць сябе задзіночанаю нацыяй. Цяперашнія індзейцы мая, якіх налічваецца блізка шасьці мільёнаў чалавек, жывуць у пяці краінах рэгіёну – у паўднёвай Мэксыцы, Гватэмале, Бэлізе, Гандурасе й Сальвадоры.

На навале канкістадораў стагодзьдзі прыгнёту й рабаўніцтва прывялі большыню індзейцаў мая да галечы й няшчасьця. Лідэры "Руху Мая" маюць на мэце дамагчыся хаця б частковага адраджэньня колішняе велічы – і ня толькі праз аднаўленьне даўніх традыцый. Яны шукаюць і новыя шляхі. Азнакі адраджэньня найлепш відаць у тых дзьвюх краінах, дзе народнасьць мая мае найбольшы лік – у Гватэмале (4 мільёны чалавек) і ў Мэксыцы. Але найактыўнейшыя мая – выкладчыкі, пісьменьнікі, мастакі – не прызнаюць межаў і спрабуюць адрадзіць культуру свайго народу, дзякуючы якой індзейцы зноў усьвядомяць сябе адзінаю нацыяй – стваральніцай адной з самых разьвітых цывілізацыяў гісторыі.

Штораз большую папулярнасьць атрымліваюць нацыянальныя строі мая. Мая-мадэльеры намагаюцца, каб створанае імі адзеньне насілі жанчыны (і мужчыны) ува ўсіх кутках земскае кулі. Самі ж яны носяць нацыянальныя строі не таму, што ня могуць набыць сабе сучасную вопратку. Мая-кампутароўцы пішуць праграмы, якія ўзнаўляюць на сваіх пэрсанальных кампутарах старажытныя магічныя спосабы прадказаньня будучыні. Мая – народ практычны.

Але і ўпарты. Абедзьве гэтыя рысы дапамаглі ім выжыць. Іхнае змаганьне за захаваньне нацыі прыцягнула да сябе ўвагу міжнароднае супольнасьці. Увага гэтая стала пільнейшаю асабліва ў 1992 годзе, калі актывістка "Руху мая" Рыгабэрта Мэнчу атрымала Нобэлеўскую прэмію міру за свой уклад у змаганьне за правы тубыльцаў Гватэмалы. Трохі пазьней у цэнтры ўсеагульнае ўвагі апынуліся даведзеныя да роспачы жыхары мэксыканскага штату Чыяпас, разьмешчанага на поўдні краіны: яны абвясьцілі вайну мэксыканскаму ўраду, патрабуючы сацыяльнае справядлівасьці для народу мая. Рух той ачольваў славуты "субкамандантэ Маркас", які сам да мая не належыць. Аднае пагрозы было досыць, каб ад 1994 г., калі ўзьнялося паўстаньне, мэксыканскі ўрад вылучыў на разьвіцьцё Чыяпасу сотні мільёнаў пэса. Але мая ня хочуць вайны, асабліва тыя нешматлікія маладыя людзі, якія атрымалі адукацыю. Бо ў суседняй Гватэмале грамадзянская вайна, што скончылася колькі гадоў таму, забрала жыцьці ста тысяч чалавек, і блізка ўсе яны былі індзейцы мая. Адных мабілізавалі ўва ўрадавае войска, іншыя з паўстанцкімі атрадамі сышлі ў горы, трэція – мірныя сяляне – проста трапілі пад гарачую руку тым ці другім. Але вайну разьвязалі ня мая, а чужынцы, гэтаксама як усе войны ў нашым краі вяліся дзеля зусім ня нашых інтарэсаў.

Росквіт цывілізацыі мая прыпадае на гэтак званы клясычны пэрыяд – ад 250 да 900 гадоў н.э. Цягам гэтых стагодзьдзяў дойліды мая збудавалі найвялікшыя ў Заходняй паўкулі помнікі – бажніцы ў мэксыканскай Чычэн-Іцы, гватэмальскім Тыкалі, гандураскім Капане. Земляробы мая вывелі і ўдасканалілі кукурузу. Матэматыкі адкрылі панятак "нуль". Мая стварылі ўласную сыстэму пэтрогліфаў.

За шэсьць стагодзьдзяў да "адкрыцьця" Калюмбам Амэрыкі гэтая цывілізацыя раптам спынила сваё існаваньне. Чаму гэтак адбылося, пакуль ня высьветлена, хоць навукоўцы сярод прычын называюць перанаселенасьць, эпідэміі, зьмены клімату й вайну. На месцы згінулай дзяржавы паўставалі іншыя дзяржаўныя ўтварэньні – тальтэкаў, якія ў XII ст. заваявалі ацтэкі – пакуль, нарэшце, пры канцы XVI ст. усіх іх не захапілі гішпанцы. І цьмяная памяць пра гераічную мінуўшчыну засталася хіба адзіным, што дагэтуль задзіночвае мая.

Сёньня мая пазбаўлены нават моўнае лучнасьці. (Гэта і што да гішпанскае, бо вяскоўцы амаль не валодаюць дзяржаўнаю моваю сваіх краін.) У моўную сям'ю мая ўлучаецца болей за дваццаць жывых гаворак і дыялектаў: зь іх, прыкладам, на дыялекце мочна гавораць толькі 75 чалавек у Чыяпасе, і ён вось-вось станецца мёртвым. Іншыя, кшталту какчыкеля, пашыранага ў цэнтральнай Гватэмале, на якім гавораць 270 тысяч чалавек, плённа супраціўляюцца гішпанізацыі. У наш час школы па ўсім "краі мая" ўсяляк імкнуцца заахвоціць "сапраўдных мая" гаварыць на роднай мове. Настаўнікі намагаюцца пераадолець скептыцызм вучняў і бацькоў. Спачатку многія бацькі меркавалі, што іхныя дзеці зробяць крок назад, калі будуць вучыцца гаворцы какчыкеля, але цяпер яны ў гэтым "кроку назад" бачаць і перавагі.

Прыхільнікі адраджэньня культуры мая аддаюць увагу ня толькі школам. Мовазнаўцы працуюць над складаньнем слоўнікаў, парадкуюць граматыку й нават прыдумляюць новыя словы. "Кампутар", прыкладам, стаўся "кемацыбам" ("слоўным ткачом"). Мова мая паэтычная й багатая на гукаперайманьні: "гром" – "кунунун", што азначае "той, што нізка разьлягаецца", "пацалунак" абазначаецца словам, што перадае цмоканьне – "цуц", "дзяцел" будзе адпаведна "туктук". Усё больш і больш пісьменьнікаў мая пераконваюцца, што іхныя родныя мовы цалкам прыдатныя, каб ствараць на іх літаратуру.



Гэтая тэндэнцыя прасочваецца амаль ува ўсіх сфэрах штодзённага жыцьця. Адзін гватэмальскі выдавец друкуе й пасьпяхова распаўсюджвае падручны штодзёньнік, створаны на падставе старажытнага календара мая. Ён мае попыт і ў тых, хто не належыць да мая паводле крыві: зь ягонаю дапамогаю можна выбраць спрыяльны дзень для палявых работ, для падзякі ці пэўных цырымоній. У гэтым маленькім тамку дні тыдня пазначаюцца таямнічымі для непасьвечаных пэтрогліфамі і выкарыстоўваецца сыстэма зьлічэньня мая. У месяцы Тэкпан яна ўжываецца (поруч зь дзесятковаю сыстэмаю) для навучаньня школяроў арытмэтыкі ці, прынамсі, для разьвіцьця мысьленьня – гэтак на Захадзе з тою самаю мэтаю вучаць дзяцей лічыць у дванаццатковай сыстэме. Дызайнэр кнігі Дэмэтрыё Радрыгес стварыў адмысловую праграму, што дае магчымасьць адною пстрычкаю "мышкі" выклікаць на экран увесь набор пэтрогліфаў мовы мая. "Цяпер яны праракуюць з дапамогай лэптопу", – кажа антраполяг Кей Уорэн, аўтар манаграфіі аб праблемах этнічнага адраджэньня ў Гватэмале.

Рух "панмаянізму" амаль нідзе не спаткаў адмоўнае рэакцыі. У Мэксыцы, прыкладам, ніхто не пратэстуе з тае нагоды, што зь дзяржаўнае скарбніцы грошы паліліся ў Чыяпас. Да гэтага ставяцца скарэй з патураньнем. І ў Гватэмале незадаволеньне выяўляецца хіба толькі ў форме жартаў. Папулярны досьціп кажа, што Гватэмала будзе перайназвана ў "Гватэмаю". "Ладынасы" (як называюць індзейцы мая ўсіх, хто не належыць да іхнага народу) таксама сталіся ад вайны.

А між тым вайна паспрыяла пашырэньню руху за адраджэньне мая наўшыркі. Эдуарда Такацік у 10 гадоў праз грамадзянскую вайну мусіў пакінуць родны дом у Чымальтэнанга і ўцячы ў Мэксыку. Там ён навучыўся пэлёты – даўняе гульні індзейцаў мая, забытае ў Гватэмале. Праз 13 год, вярнуўшыся на бацькаўшчыну, ён прывёз з сабою гульню. Неўзабаве Такацік ды дзясятак ягоных сяброў, якіх ён зацікавіў гульнёю, выправіліся ў ваколіцы Тэкпану, дзе ў старажытнасьці мая гулялі ў пэлёту, і зладзілі там турнір. Гэта было нешта большае, чым проста гульня. Ад X ст. гэтая пляцоўка была закінута й забыта – цяпер, хай і ненадоўга, мая вярнуліся на яе.

**Віктар Мухін**

# Цьвік у чэрапе Афрыкі

**За навінамі з афрыканскай краіны Гамбіі, як і з багатага нафтаю антыльскага Трынідаду і Табага, я заўсёды сачу з падвойнай цікавасьцю, бо гэтыя краіны ў свой час ледзьве ня сталі калёніямі Вялікага Княства Літоўскага.**

Калі ў сярэдзіне XVII ст. Курляндзкае герцагства пачало сваю каляніяльную экспансію, герцаг Якаў паслаў свае караблі паміж іншым і ў Гамбію, дзе ў 1651 г. курляндзкая экспэдыцыя набыла востраў Банжул і змуравала там замак. А Курляндзкае герцагства заўсёды, ад самага свайго заснаваньня ў часе сэкулярызацыі Лівонскага ордэну, было васалам Рэчы Паспалітай. Але, на жаль, гэта ўжо былі не найлепшыя часы Вялікага Княства, якое страчвала кантроль над сваімі паўночнымі землямі. Неўзабаве наш рэгіён зноўку ахапіла вайна – прыйшлі жудасныя 1654-67 гады, калі было ўжо не да калёніяў, і Банжул прадалі галяндзкай Вэст-Індзкай кампаніі.

Калі воляю брытанскіх калянізатараў 35 гадоў таму была створаная дзяржава Гамбія, дык усе толькі падсьмейваліся і прарочылі ёй максымум пару гадоў існаваньня. Змрочныя прагнозы падмацоўваў і проста позірк на мапу, дзе гэтая краіна выглядала як клін, убіты ў Сэнэгал: паўсотні кілямэтраў акіянскага ўзьбярэжжа, рака, што дала краю назву, а па берагох — джунглі зь безьліччу мух цэцэ. Нібы вуж, яна паўзе да саванна-бамбукавай раўніны Сахелю. Вельмі хутка гэта адбілася ў мянушках, накшталт такіх: "краіна-рака", "цьвік у афрыканскім чэрапе". Сапраўды, межы праходзяць усяго ў 10-15 км на поўнач і поўдзень ад рэчышча, якое цягнецца кілямэтраў на 300. Бязглуздасьць гамбійскіх межаў мае тыя ж прычыны, што і абсурднасьць іншых афрыканскіх межаў. Гэты абшар адным зь першых у Заходняй Афрыцы стаў полем лоўлі нявольнікаў. Партугальскіх, брытанскіх і францускіх гандляроў людзьмі цікавіла толькі рака, па якой можна зручна сплаўляцца да акіяну і звозіць на ўзьбярэжжа нявольнікаў. Руіны старых фартоў і сяньня прыцягваюць турыстаў, якія аглядаюць там кучы аскепкаў бутэлечнага шкла – ад дэкалітраў "вогненнай вады", выпітых каляніяльнымі войскамі.

Вайна за кантроль над Гамбіяй ішла больш за паўтара стагодзьдзя. Перамагла ў ёй урэшце Брытанія, зацьвердзіўшы сваё выключнае права на Гамбію ў Вэрсальскім трактаце 1815 г. Гэта была самая першая і самая апошняя брытанская калёнія ў Афрыцы.

Яшчэ ў XVIII ст. брытанцы абяцалі даць вольнасьць тым нявольнікам, што далучацца да войска, якое ваюе з амэрыканскімі бунтаўнікамі (шмат хто зь іхных нашчадкаў перасяліўся на землі сёньняшняй Гамбіі і жыве тут цяпер). Тамсама, ля вусьця Гамбіі, брытанскія вадаплавы ўпершыню пачалі перасьледаваць гандляроў нявольнікамі, калі рабства было забароненае. Якраз тады брытанцы вытаргавалі ад мясцовага правадыра востраў Банжул і збудавалі там цяперашнюю сталіцу краіны.

1960-я гады прынесьлі вольнасьць амаль усёй Афрыцы, але калі вэтэрынар (адзін з рэдкіх гамбійцаў з вышэйшай адукацыяй на той час) Даўда Кайраба Джавара запатрабаваў свабоды і для Гамбіі, то брытанцы не хавалі зьдзіўленьня — нашто такая краіна, дзе ёсьць усяго адна школа, два шпіталі і ніводнай брукаванай дарогі. У ААН пачалі абмяркоўваць магчымасьць злучэньня Гамбіі з Сэнэгалам. Абедзьве краіны насяляюць афрыканцы адных і тых жа народнасьцяў (сярод іх і народ уолаф – самыя чорныя мурыны сьвету), якія ў асноўным вызнаюць іслам. Але прага Джавары стаць прэзыдэнтам і адвечнае суперніцтва Брытаніі і Францыі (Сэнэгал быў францускай калёніяй) так і не дазволілі зьдзейсніцца аб'яднаньню. У 1965 г. Лёндан прызнаў незалежнасьць Гамбіі.

Гаспадарка краіны грунтуецца на клясычнай каляніяльнай монакультуры. Як было выжыць краіне, адзіным багацьцем якой зьяўляюцца земляныя арэхі, даход ад продажу якіх складае тры чвэрці ўсіх прыбыткаў, а рэшта — грошы ад турызму? У Гамбію іншаземцаў прываблівалі нават ня так файныя пляжы, як стабільнасьць і бясьпека, што вылучалі краіну спаміж суседзяў, якіх скаланалі перавароты й войны. Прэзыдэнт Джавара, хаця й ня дужа турбаваўся пра сваіх падданых і дапускаў карупцыю, меў добры выгляд у вачох Захаду. Сярод іншых сваіх калегаў ён вылучаўся ўжо хоць бы тым, што не садзіў сваіх палітычных ворагаў у вязьніцу. Таму ён лёгка атрымліваў крэдыты, што на тле падвышэньня цэнаў на арэшкі і прытоку турысцкіх грошай зрабіла магчымым спакойнае й доўгае, амаль 30-гадовае кіраваньне.




Гэты спакой, відаць, і навеў сон на Джавару, які не ўбярогся ад клясычнага вайсковага перавароту. Праўда, людзі кажуць, што за 30 гадоў ён не зрабіў для краю нічога значнага, нічога не пабудаваў – ні шпіталя, ні школы, ні кавалка дарогі, дый наагул задоўга кіраваў. Таму, напэўна, ніхто і не пратэставаў, калі да ўлады прыйшло войска.

Першая няўдалая спроба перавароту адбылася ў 1981 г., калі прэзыдэнт паехаў у Лёндан, а афіцэры, падвучаныя Кадафі, паспрабавалі ўчыніць путч. Але брытанскія камандас і сэнэгальскае войска выратавалі Джавару. Загінула тады каля тысячы гамбійцаў. Гэтага крывавага лета Джавару не даравалі. Пасьля гэтага ён пачаў баяцца ўласных жаўнераў і зближацца з сэнэгальцамі і нават упрасіў апошніх выдзеліць яму асабістую ахову. У рамках інтэграцыі з братняй краінай ён пагадзіўся на саюз з Сэнэгалам пад назвай Сэнэгамбія.

Сэнэгал — заўсёдны супернік Нігерыі за рэгіянальнае лідэрства — быў гэтым вельмі ўсьцешаны. Але праз 7 гадоў Сэнэгамбія распалася, пахаваўшы пад сабою міт пра будучую адзіную Афрыку. Інтэграцыю пахавалі мытныя непаразуменьні, бо гамбійцы, прызначыўшы меншыя мыты, нажываліся на экспарце ў Сэнэгал. Да таго ж яны адчулі, што ў гэтым няроўным хаўрусе ім наканаваная роля малодшага брата. Дакар зьвінаваціў у распадзе канфэдэрацыі Джавару і адклікаў свае войскі. Джавара запрасіў на іх месца нігерыйцаў, але дарма ён гэта зрабіў, дарма...

Гамбійскія афіцэры, ставарышаваўшыся са сваімі калегамі зь Нігерыі й Ганы, што зналіся на палітыцы й вайсковых пераваротах, парашылі, што ім таксама варта зрынуць старога і карумпаванага прэзыдэнта. Гамбійскія вайскоўцы разам са сваімі калегамі пабывалі ў 1991 г. у Лібэрыі, дзе ў складзе экспэдыцыйнага корпусу Заходнеафрыканскай супольнасьці 1991 г. спынялі тамтэйшую грамадзянскую вайну. У чэрвені 1991 г. тыя вэтэраны лібэрыйскае вайны зьявіліся пад прэзыдэнцкім палацам і зь нечуванай дзёрзкасьцю запатрабавалі выплаты грошай за службу ў місіі. Прэзыдэнт ня толькі заплаціў, але й пасадзіў у турму нялюбага войску камандуючага, а на яго месца прызначыў нігерыйца.

Зразумела, войска не зьбіралася спыняцца на дасягнутым, і перапалоханы Джавара папрасіў Нігерыю прыслаць яшчэ чатыры тузіны афіцэраў. Неўзабаве на кожны тузін гамбійскіх жаўнераў (а ўсё гамбійскае войска — гэта прыкладна 800 чалавек) прыпадаў ужо адзін нігерыйскі афіцэр. Таму цяжка даць веры, што нігерыйцы нічога ня ведалі пра змову і ніяк не замяшаныя ў путчы. 28-гадовы капітан жандармэрыі Яг'я Джамэг узначаліў выступ супраць прэзыдэнта і разам зь іншымі кіраўнікамі перавароту паабяцаў змагацца з карупцыяй і сувора разабрацца зь міністрамі-злодзеямі. Ён таксама паабяцаў адразу пасьля ўпарадкаваньня справаў, сама больш праз 4 гады, аддаць уладу цывільным. Паспаліты люд прыхільна паставіўся да зьмены ўлады, да таго ж людзям спадабалася, што былога прэзыдэнта адпусьцілі і не расстралялі, як зрабілі б у Гане ці Нігерыі. Афрыка, зьвыклая да такіх падзеяў, спакойна паставілася да зьменаў у Гамбіі, і толькі паўднёваафрыканскі прэзыдэнт Нэльсан Мандэла, што толькі-толькі заступіў на пасаду, настаўнік дэмакратыі для ўсяго кантынэнту, выказаў пратэст. Сэнэгал, якому не было шкада забойцы Сэнэгамбіі, ня радавалі таксама і новыя гамбійскія ўладары. Па-першае, сэнэгальскія ўлады занепакоіліся, каб іхнае войска не ўзяло прыкладу з гамбійцаў і не занялося палітыкай. Па-другое, Сэнэгал, як і астатняя франкамоўная Афрыка, баяўся экспансіянізму ангельскамоўнай Нігерыі і ня верыў запэўніваньням генэралаў, кіраўнікоў Нігерыі, што тыя не замяшаныя ў гамбійскія падзеі. Малады Джамэг, мала дасьведчаны ў дзяржаўнай навуцы, няўдзячна паставіўся да нігерыйцаў і ў 1995 г. у адзіночку выйшаў з падпарадкаваньня Нігерыі, заступіўшыся за апазыцыйнага пісьменьніка Кена Сара-Віву, якога меліся пакараць сьмерцю. Балела галава Дакару і з-за чутак наконт сувязей Джамэга зь незалежнікамі з сэнэгальскай правінцыі Казаманка. Гэтыя паўстанцы — людзі народу джола, зь якога паходзіць гамбійскі прэзыдэнт. Хадзілі плёткі і пра тое, што асабістая ахова Джамэга набраная з казаманцаў.

Абыдзены ўвагай сьвету, новы прэзыдэнт вымушана сябраваў з усімі, хто толькі яму прапаноўваў прыязьнь — Кадафі, іранцамі, Кастра, час ад часу — зь нігерыйскімі генэраламі, а таксама кіраўнікамі Тайваню, якія за дыпляматычнае прызнаньне іхнай краіны заплацілі маладому прэзыдэнту гатоўкай. Гэта папсавала вобраз Гамбіі, які быў склаўся на Захадзе. Джамэгу не пашанцавала. Тое, што ён рабіў, можна было рабіць гадоў за дзесяць раней, і сьвет бы ўсё трываў — прыкладам гэтаму зьяўляецца чыннасьць Джэры Ролінгза ў Гане і Ёвэры Мусэвэні ўва Ўгандзе. Джамэг спрабаваў як найдакладней ісьці іхным шляхам, але час зьмяняецца нават у Афрыцы. Джамэг тады паспрабаваў зьмяніць імідж. Ягоным настаўнікам быў сам Ролінгз — вядучы шаман Заходняй Афрыкі ў галіне дэмакратыі і *Realpolitik*. Па прыкладзе паручніка Ролінгза ён зьмяніў мундзір на традыцыйны народны строй, каб выйграць выбары 1996 г. цывільным чалавекам, але ў Гамбіі спэктакль ня ўдаўся, і міжнародная супольнасьць назвала выбары фарсам.

Тым ня менш, Джамэг, хоць і правіў цьвёрдай рукой, але стараўся не перасьледаваць апазыцыі беспадстаўна і казаў міністрам дбаць найперш пра дабро людзей. Гамбійцам спадабалася і тое, што ён загадаў выпусьціць новыя грошы без свайго партрэту.

Новы кіраўнік робіць усё, каб прывабіць турыстаў. Ён збудаваў новае лётнішча, заасфальтаваў дарогу на Сэнэгал, будуе ў вёсках школы і клінікі. Сёньня цэлыя натоўпы эўрапейскіх турыстаў цягнуцца у Гамбію ўзімку. Але ў гэтым дачыненьні Гамбія вельмі своеасаблівая краіна кантынэнту. Гэта, пэўна, адзіны край Афрыкі, дзе, пабачыўшы белага чалавека, гукаюць па-нямецку — *Wie geht's? Alles klar?* — і замест заўсёднага *change money* вы пачуеце *wechseln*. І наагул мала дзе ў Афрыцы немцаў больш, чым у Гамбіі. Праўда, тое ж можна сказаць і пра колькасьць прастытутак і жыгалё для багатых мюнхенцаў і бэрлінак. Проста няма ў Афрыцы больш спакойнага і мірнага месца, чым гэтая краіна.

Неўзабаве выбары, але прэзыдэнт не баіцца іх, і, самае галоўнае, — засьцярогся ад ваеннага перавароту: зброю цяпер ніхто цэлы дзень ня носіць — нават паліцыянты і памежнікі. Яна пад замком і выдаецца толькі на час, а ключы да сховаў маюць толькі два афіцэры з народу джола.

**Сяргей Радштэйн**

# Што вы зрабілі са сваёй вольнасьцю

У XV-XIX ст. з Афрыкі на амэрыканскія плянтацыі вывезьлі каля 20 млн. чалавек. Яшчэ каля 15 млн. афрыканцаў паняволілі арабскія паляўнічыя на людзей. Навука Маркуса Гарві і Марціна Лютэра Кінга, рух Black Power, музыка рэгі ды растафарыянізм падштурхнулі мурынаў Новага сьвету да пошуку сваіх каранёў. У свой час вялікую вядомасьць набыў чын амэрыканскага пісьменьніка Галея, які прыехаў на сваю гістарычную радзіму, адкуль яго продкаў вывезьлі стагодзьдзі таму, і адшукаў тамака сваіх дальніх сваякоў. Сёньня каменныя фарты, дзе ўтрымлівалі нявольнікаў і адкуль іх адпраўлялі ў 100-дзённае падарожжа на рабскія рынкі Карыбаў, сталі турыстычнымі славутасьцямі.

На пачатку 90-х эксцэнтрычны правадыр ёруба, мільянэр і няўдалы прэзыдэнт Нігерыі Абіёла пачаў кампанію, каб прымусіць Захад заплаціць кампэнсацыю за паняволеньне і калянізацыю Афрыкі. Пры гэтым ён спасылаўся на кампэнсацыю, якую выплаціла жыдам Нямеччына, а таксама на рэпарацыі, выплачаныя Кувэйту Іракам, і нават здабыў сваёй задуме падтрымку з боку Арганізацыі Афрыканскага Адзінства.

Многія афрыканскія і афраамэрыканскія палітыкі ў прынцыпе пагадзіліся з ідэяй кампэнсацыі. Некаторыя, праўда, заявілі, што тую кампэнсацыю найперш трэ было б даваць чарнаскурым Амэрыкі і Карыбаў, а ня Афрыцы і тым афрыканцам, чыіх продкаў ніхто нікуды ня звозіў. Дый хто мусіць плаціць? Калі заходнія дзяржавы, то як быць з тым, што некаторыя падаткаплатнікі заходніх краінаў самі нашчадкі рабоў?



І чаму ніхто не дамагаецца адначасова кампэнсацыяў і ад арабскіх краінаў? У Афрыцы іслам шырыцца і мацнее, а арабскія нафтадаляры ратуюць многія дыктатарскія рэжымы Чорнага кантынэнту, таму нагадваць арабам пра рабства ніхто не рызыкуе. Затое нагадаць пра яго белым - цалкам адпавядае духу часу. Дый як разабрацца з князькамі і царкамі, што самі палявалі на сваіх людзей, каб прадаць іх іншаземцам, ці ўвогуле аддавалі іх за іржавую стрэльбу? І ўвогуле, як уся Афрыка можа патрабаваць кампэнсацыяў за рабства, калі ў такіх краінах, як Судан і Маўрытанія, яно практыкуецца і цяпер?

Адным з варыянтаў вырашэньня праблемы мог бы стаць гэткі афрыканскі "плян Маршала". Чарнаскуры пастар і палітык з ЗША, Джэсы Джэксан ужо шэраг гадоў змагаецца за кампэнсацыі для Афрыкі, але кажа, што трэба забыць пра адказнасьць самой Афрыкі за нявольніцтва і не зважаць на долю ейнае віны ў ім, бо не афрыканцы стварылі попыт на рабоў, не яны перавозілі нявольнікаў цэлымі караблямі і не яны збудавалі сваю цывілізацыю на нявольніцтве. І дадае, што калі плян дапамогі ўсё ж немагчымы, то для пачатку хапіла б і таго, каб Захад дараваў Афрыцы даўгі, якія дасягаюць 300 млрд. даляраў, і даў новых пазыкаў на тых жа ўмовах, што і для посткамуністычных краін Усходняй Эўропы.

Але існуюць і іншыя меркаваньні. "Годзе стаяць з працягнутай рукой і жабраваць! Годзе вінаваціць за нашыя беды толькі іншых! Урэшце, годзе пытацца, што сьвет зрабіў для Афрыкі, трэба засяродзіцца на тым, што мы самі можам для сябе зрабіць!" — заявілі прэзыдэнты Паўднёвай Афрыкі і Ўганды Таба Мбэкі і Ёвэры Мусэвэні, абвяшчаючы надыход афрыканскага Адраджэньня. Адным словам, паўтараючы Нэльсана Мандэлу: "Што вы зрабілі са сваёй вольнасьцю?"

Не дасягнуўшы згоды між сабой у справе стаўленьня да кампэнсацыі за нявольніцтва і змарнаваную вольнасьць, Афрыка ня можа атрымаць і інвэстыцыяў. Вось і рамантуюць афрыканцы нявольніцкія рынкі і вязьніцы, куды ахвотна едуць заходнія турысты, зь якіх можна выцягнуць грошы. Ніяк чорнай Афрыцы не ўдаецца скарыстаць са сваёй вольнасьці. Воля - гэта вам ня рабства!

**С.Р.**

# Кнігі і дыскі па выходных

## *Беларуская прадукцыя на буйных кніжных кірмашах Менску*

**Сёньня набыцьцё беларускай кніжкі ператварылася з падзеі будзённага характару ў дзею культурніцкую, ледзь не палітычную. Ня кожная кнігарня задаволіць патрабавальнага чытача. "Засьмелыя" і "палітычна ненадзейныя" кнігі ў дзяржаўных крамах проста не прадаюцца. Да таго ж цэны на беларускія кніжкі ў дзяржаўных, асабліва буйных крамах проста палохаюць.**

### КІРМАШЫ-ГУРТОЎНІ

Альтэрнатываю можа быць паход у "Букініст" ці на кніжны кірмаш.

Большасьць кніжных кірмашоў працуе на выходных, у досыць нязручны час. Той найбуйнейшы, гуртова-раздробны, што праходзіць у спорткомплексе на вул.Даўмана, адчыняецца ў 0.00 у суботу і працуе да 12 гадзін раніцы, прычым пад дзень актыўнасьць там заўважна спадае. Кірмаш у выставачнай залі былой ВДНГ працуе з 8 да 12 гадзін раніцы ў суботу. І з 8 да 12 раніцы ў нядзелю адбываецца выстава ў ДК Трактарнага заводу.

Нягледзячы на нязручны на першы погляд час, усім згаданым кірмашам не бракуе ні прадаўцоў, ні наведнікаў — агромністыя павільёны дарэшты забітыя прагнымі да чытва людзьмі. Аднак тое, што прапануецца на ўсіх гэтых выставах, наўрад ці зацікавіць чытача, якому патрэбныя беларускія кніжкі, бо там іх няшмат. Большасьць кніг на менскіх кірмашах прывезеная з Масквы. Беларускія выдавецтвы, нават з кнігамі на расейскай мове, прадстаўленыя толькі зрэдку. Адзіным значным плюсам "выходных кірмашоў" застаюцца нашмат меншыя кошты, чым ў крамах (часам больш як удвая), а таксама крыху шырэйшы выбар усё тых жа расейскамоўных выданьняў, у тым ліку і добрай літаратуры, у параўнаньні зь дзяржаўнымі крамамі.

Як сьведчаць прадаўцы, найбольшым попытам сярод нашых пакупнікоў карыстаецца гэтак званая "інтэлектуальная" літаратура. Надзвычай шмат набываюць Мілана Кундэру, Хуліё Картасара, Мілорада Павіча, Маркеса, Борхеса, Кастанэду, з расейцаў — Пялевіна, Даўлатава ды Бродзкага. Трохі па сусьветнай модзе пачатку 90-х, як бачым.

Вельмі шырока на кірмашах прадстаўлена навучальная літаратура — ад падручнікаў для школяроў да спэцыялізаванай літаратуры па мэдыцыне, псыхалёгіі і гэтак далей — тут могуць знайсьці каштоўны набытак нават прафэсары, ня кажучы ўжо аб студэнтах і закалапочаных навучаньнем дзяцей бацьках, чаму гэтыя кніжкі і займаюць другое месца паводле ліку продажаў.

Трэцім "сэгмэнтам кірмашоў" можна лічыць "жоўтую" літаратуру, якую ў нашым выпадку наўрад ці можна назваць папулярнай — ці то патэнцыйныя пакупнікі такою парой яшчэ сьпяць, ці то ня маюць патрэбы спэцыяльна ездзіць па гэткае чытво на нейкія там кірмашы.

Такім чынам, кніжныя кірмашы найбольш сталіся цэнтрамі продажу сусьветнае літаратурнае клясыкі на расейскай мове.

Аднак калі вы заўзяты аматар наведваць такога кшталту мясьціны, то вам можа вельмі пашанцаваць — я, напрыклад, на Даўмана выпадкова натрапіў на "Беларусаў" Яўхіма Карскага, рарытэтнае двухтомнае выданьне пачатку 60-х гадоў. Тамсама прадавалася некалькі расейска-беларускіх слоўнікаў, "Тлумачальны слоўнік беларускай мовы", "Беларуска-расійскі слоўнік" Байкова й Некрашэвіча і яшчэ сёе-тое. Са словаў прадаўца, продажам беларускіх выданьняў на кірмашах спэцыяльна ўжо гады два як ніхто не займаецца, аднак раз-пораз можна натрапіць на яшчэ больш рарытэтныя, часам неацэнныя выданьні.

### ШТОДЗЁННЫЯ ВЫСТАВЫ

Для тых, каму не выпадае шукаць кнігі ў выходныя, ёсьць два месцы, якія працуюць штодзённа, акрамя суботы й нядзелі — гэта невялікая крамка ў Палацы мастацтваў і кніжны кірмаш у канцэртнай залі "Менск" (уваход ззаду). У першым месцы найбольш поўна прадстаўленыя выданьні той жа інтэлектуальнай літаратуры, а таксама шмат кніг па нетрадыцыйнай псыхалёгіі (але ўсё безнадзейна расейскае). Кірмаш у КЗ "Менск" нічым асаблівым не вылучаецца, бо там прадаюцца тыя ж кнігі, што й на іншых кірмашах у выходныя. Аднак там часам бываюць старыя выданьні беларускіх кніжак, цікавыя для сур'ёзнага чытача, а таксама нешта папулярнае сучаснае, кшталту часопіса "Arche".

Узьнікае натуральнае пытаньне: чаму беларускія выдавецтвы не прадаюць сваіх кніг на ўсіх гэтых кірмашах, якія карыстаюцца вельмі вялікай папулярнасьцю і вядомыя вялікімі продажамі практычна любога прапанаванага выданьня? Калі зь дзяржаўнымі выдавецтвамі ўсё зразумела — яны ад даходаў з продажу ніяк не залежаць і іх задавальняе гарантаванае ляжаньне беларускамоўных выданьняў у непаваротлівай "Белкнізе" і аблкнігагандлях, дык што ж незалежныя?

Сп.Міхноўскі зь "Беларускага кнігазбору" кажа, што іх таксама цалкам задавальняе продаж праз "Белкнігу", бо выданьні "Кнігазбору" й так добра прадаюцца, і наклад любой кніжкі цалкам разыходзіцца найпазьней праз год. Па-другое, у выдавецтва няма ліцэнзіі на самастойны продаж сваіх кніжак, таму, улічваючы ня самыя вялікія тыражы "Беларускага кнігазбору", можна зразумець, чаму яны ня маюць патрэбы ў альтэрнатыўным продажы кніг. А на вялікія тыражы, зразумела, патрэбна шмат грошай. Хоць выданьні "Кнігазбору", мабыць, разыходзіліся б і вялікімі накладамі.

Выдавецтва "Тэхналёгія" таксама на кірмашы ня рвецца, бо мае добрую ўласную краму "ў цэнтры" — у будынку Акадэміі мастацтваў.

Праблема адсутнасьці беларускіх кніжак на кніжных кірмашах — гэта хутчэй праблема чытачоў, якія звычайна ходзяць па кніжкі ў маладомыя, напаўпадпольныя пункты збыту кніжак незалежных або нелегальных выдавецтваў, якія цікаўныя й сталыя чытачы якраз добра ведаюць. Гэта яшчэ і праблема нашых белмоўных прыватных выдавецтваў, якія ня маюць ні фінансавай, ні фізічнай магчымасьці выдаваць свае кнігі вялікімі тыражамі безь дзяржаўнай падтрымкі. Праблема не культурніцкая, а хутчэй палітычная, якая ня мае простага вырашэньня.

### КЛЮБ ФІЛЯФАНІСТАЎ

Штосуботы з 12 да 15 гадзіны ў ДК трактарнага заводу працуе "Клюб філяфаністаў" — месца абмену й продажу кампакт-дыскаў. За савецкім часам "філяфаністаў", якія тады абменьваліся вінілавымі кружэлкамі, ганялі, забаранялі, дый зараз яны ледзь не штогод мусяць пераяжджаць зь месца на месца. "Раней, — наракае музычны крытык Вітаўт Мартыненка, — гэта быў сапраўды клюб, дзе можна было даведацца пра навінкі, пагутарыць з аднадумцамі, а зараз ён ператварыўся ў звычайны кірмаш".

Сярод іншых месцаў продажу клюб вылучаецца зь некалькіх істотных прычынаў. Па-першае, дыскі тут вельмі танныя — ад тысячы рублёў да дзьвюх з паловай, нават фірмовыя дыскі можна набыць нашмат таньней, чым у крамах. Па-другое, тут шырока практыкуецца абмен дыскамі, і гэта вельмі зручна тым, хто хоча займець нешта цікавае замест таго, што не падабаецца або ёсьць не ў адным асобніку. Так, напрыклад, сп.Мартыненка прыгадвае, як ён мяняў дыск Забэйды-Суміцкага на "найлепшы альбом Пола Макартні "Band of the Ram". "Вольныя танцы" вельмі лёгка мяняюцца на The Band, а Rolling Stones – на "Ліцьвіны", — кажа сп.Мартыненка.

Па-трэцяе, тут можна знайсьці тыя дыскі, якіх няма ў ніводным іншым месцы Менску дый усяе Беларусі — гэта клясычны рок і джаз, у тым ліку й такія рарытэты, як польскія, вугорскія й сэрбскія выданьні. У той жа час модная папса, што прадаецца цяпер у большасьці музычных крамаў, у клюбе зусім ня цэніцца.

Паводле меркаваньня сп.Мартыненкі, "Клюб філяфаністаў" зараз "адно з найбольш папулярных месцаў продажу беларускіх кампакт-дыскаў". Сапраўды, акрамя "Вольных танцаў", "Ліцьвіноў" і Забэйды-Суміцкага, тут можна пабачыць апошнія альбомы NRM, "Сьвяты вечар", "Новае неба", "Крыві", зрэдку можна натрапіць на "Народны альбом" і "Песьнярок". А ў бліжэйшай будучыні БМА, магчыма, пачне прадаваць свае дыскі ў клюбе больш цэнтралізавана.

Пра тое, што ў клюбе збольшага прадаюцца "пірацкія" дыскі, сп.Мартыненка кажа: "Дзяржава фактычна сама падтрымлівае пірацтва, даючы людзям такія заробкі, якія дае, і такім чынам правакуе іх на крадзеж".

**Андрусь Белавокі**



IREX-PROMEDIA





# Букіністычны Менск

*Асноўную долю букіністычнага рынку ў Менску трымаюць тры кнігарні: "Вянок", "Веды", "Букіністычная кніга".*

Ёсьць яшчэ адзін букініст каля ст.м."Аўтазаводзкая", але ён не карыстаецца папулярнасьцю, бо мае малы асартымэнт і знаходзіцца далёка ад цэнтру. У некаторых кнігарнях існуюць невялікія букіністычныя аддзелы, або кнігарні проста прымаюць кнігі на камісію і выстаўляюць іх на продаж разам з новымі. Так робяць у "Акадэмкнізе", "Падпісных выданьнях" і інш.

Што да кніжных кірмашоў, дык там шукаць беларускія кнігі марна, бо калі што і зьяўляецца рарытэтнае, дык кошты там — яшчэ вышэйшыя, чым на выставе ў ТБМ. Так, надзвычай я бачыў слоўнік М.Байкова і С.Некрашэвіча на кніжным кірмашы "Мір кніг", які дзейнічае штосуботы ў Нацыянальным выставачным цэнтры па вул.Янкі Купалы, 27, за 10 даляраў, калі на ТБМ ён прадаецца за 3500 руб., а ў кнігарні "Вянок" у Траецкім прадмесьці — за 1800 руб., збор твораў І.Мележа ў 10 тт. за 13000 р. і энцыклапэдыю "Беларусь у вялікай айчыннай вайне" за 5000 р. Акрамя гэтага ў "Вянку" ёсьць шмат цікавых кніжак для дзяцей на беларускай мове (казкі, вершы).

У кнігарні "Веды" (што каля Купалаўскага тэатру) на мінулым тыдні зьявілася выданьне, што за год стала супэррэдкім: кніга Лявона Юрэвіча "Жыцьцё пад агнём" пра Барыса Рагулю. Тутака яно каштуе 2500 руб. Тады як, напрыклад, "Беларускае народнае жыльлё" пад рэд. Б. Бандарчыка (1973 г.) прадаецца за 2800 р., "Гістарычны слоўнік беларускай мовы", т.14 – за 2000 р., т.15 – за 121 р., а т.17 – за 1500 р. Выбар у "Ведах" большы, чым у "Вянку", але гэтая кнігарня мае адзін недахоп — прыём кніг адбываецца нерэгулярна, што абмяжоўвае асартымэнт.

У "Букіністычнай кнізе" (пр. Ф.Скарыны, 53), якая нефармальна лічыцца галоўнай букіністычнай кнігарняй сталіцы, бо гандлюе амаль выключна кнігамі, узятымі на камісію, на мінулым тыдні былі ў продажы, сярод іншага, энцыклапэдычны даведнік "Беларускія пісьменьнікі" — т.1 і 2 па 2 тыс.руб. і кніга С.Кавалёва "Героіка-эпічная паэзія Беларусі і Літвы канца XIX ст." за 1500 руб.

Кнігарні ў Менску працуюць з 10 да 19-й у будні (у "Вянку" ёсьць перапынак з 14 да 15), а ў суботу — да 18-й.

**Янка Цітовіч**

Людміла Рублеўская

# Кніжныя людзі

Самым вядомым у гісторыі літаратуры кніжным гандляром быў Герман Гесэ. Ахвяра "кніжнага комплексу" і стваральнік "Кніжнага чалавека", што існуе толькі ў вычытаным і таму ня мае ўласнага твару.

Пры канцы XX стагодзьдзя расейскі канцэптуальны літаратар Аляксей Цьвяткоў стварыў "Забывальнікі кніг", які расчляняе вокладкі і сьвідруе літары да нэрваў.

У кнігарню прыходзіш зусім зь іншым пачуцьцём, чым у бібліятэку. Хаця і там, і там прысутнічае азарт паляўнічага. Сапраўдны Кніжны чалавек сьвята верыць, што дзесьці на пыльных паліцах, у самым далёкім кутку хаваецца тая самая Кніга, якую ён шукае ўсё жыцьцё...

Але трыюмф бібліятэчнага чытача – гэта часовы трыюмф забойцы. Ён павінен за адведзены бібліятэчнымі правіламі тэрмін дастаць душу кнігі і назаўсёды прыўлашчыць, высмактаць са спрэсаваных старонак, падобна вампіру, духоўную энэргію і вярнуць назад пустую абалонку...

Якая для наступнага спажыўца зноў напоўніцца крывёй – мудрасьцю... Ці эрзацам эмоцыяў, якія дазволяць чытачу ашчаджаць уласныя.

У кнігарню прыходзіць не чытач, а пакупнік. Бібліятэчны чытач падобны да аматара фліртаў, пакупнік – прыхільнік шлюбу. Кніга, якую ён набудзе, застанецца зь ім... Ад кніг ня так лёгка пазбавіцца, нават ад нялюбых – выкінуць шкада, падарыць ужываную няёмка... Бібліятэчны чытач можа рызыкаваць і браць кнігі наўгад. Пакупнік выбірае напэўна. Тое, што патрэбна.

Вітрыны кнігарняў лепш, чым паліцы бібліятэк, адлюстроўваюць мэнтальнасьць нацыі. Парады гаспадынькам і гісторыя халоднай зброі з шыкоўнымі ілюстрацыямі, упераменжку абрады чорнай магіі і рэцэпты праваслаўнай кухні...

Самыя цудоўныя кнігарні – букіністычныя. А ў іх я найбольш люблю антыкварны аддзел. Часам удаецца знайсьці кнігі, якія доўга не куплялі, і прызначаная за іх цана за гэты час зрабілася зусім невялікай. У гэтым таксама выпадак і рызыка – невядома, што патрапіш набыць.

Яшчэ большую каштоўнасьць, чым тэкст, у Старой Кнізе маюць маргіналіі, аскалёпкі люстэрка эпохі. Напрыклад, на шмуцтытуле набытага ў "Вянку", у Траецкім прадмесьці, падручніка агульнай геаграфіі 1907 году штамп аптэкарскай крамы і каравыя запісы алоўкам ня вельмі абазнанага некага, кшталту "Мефология – различная сказания", "Релефт – неровность земли", "Скомпрометировать – значит – объясниться в любви".

Зь Вільні я прывезла том дадаткаў да часопісу "Ніва" 1913 году выданьня. Неразборлівы экслібрыс прыватнай бібліятэкі, побач – пячатка перасоўнага фонду Ленінградзкага Дому мастацтваў. У артыкуле "Дарагавізна жыцьця" адзначаецца, што драматург Астроўскі за свае цудоўныя творы атрымліваў па 25 рублёў за аркуш, а сучасны аўтару артыкула шараговы літаратурны работнік ня будзе працаваць і за 40 рублёў за аркуш...

А сучасныя беларускія літаратары ніяк ня могуць зьмірыцца з думкай, што кніга – тавар, а значыць, павінна падпарадкоўвацца законам рынку. Пісьменнікі – ідэалісты...

Дадатак да "Нівы" я выкупіла за чатыры літы, што роўна аднаму даляру. Кнігі не на літоўскай мове ў краме стаялі асобна і цаніліся танна.

У сёлетні прыезд у Вільню прыцанілася да сьціплага тамка – кнігі паэўрапейску стаялі не на паліцах, а ў жывапісных грудах на фоне старажытнай зброі і фальшывай кітайскай бронзы. Халява скончылася – меней чым за сто даляраў мне нічога не прапанавалі.

У кнігарню ніколі не заходзіш як гаспадар. Калі ты працаўнік так званай духоўнай сфэры, ты магутны чытач, але нікчэмны пакупнік. Твае патэнцыйныя суразмоўцы, закаваныя ў стракатыя вокладкі, ня могуць прабіцца да цябе, адгароджаныя недаступнымі табе лічбамі.

У расейскіх фантастаў братоў Стругацкіх ёсьць такія пэрсанажы – мудрыя макрацы, якія рыхтуюць Апакаліпсіс і пераўтварэньне сьвету. Макрацы жывяцца чытаньнем.




Бяз кніг яны паміраюць ад голаду. Праўда, яны лысыя, сьлізкія і да таго ж імпатэнты.

Побач з кнігарняй, што ля нашага дому, сьціплага выгляду кабета спрабуе прадаць мне вялікую, у цьвёрдай бліскучай вокладцы расейскамоўную дзіцячую кнігу. Аказваецца, кабета – аўтарка гэтай кнігі. Доўга рэкламуе свой тавар, збаўляе цану... Я не купляю. Мне страшна, нібыта перад крывым люстэркам.

## новыя выданьні, дасланыя ў рэдакцыю

Э.Грахавец. **Вяртаньне**: Выбраныя вершы. ‑ Менск: Лекцыя, 2000. ‑ 108 с. ‑ Наклад 320 ас. ISBN 985-6305-31-4

*Гэта пасьмяротная кніга лагойскага шафёра-паэта, што выйшла пад рэдакцыяй Ніла Гілевіча. Каб набыць, зьвяртайцеся ў менскую сядзібу ТБМ.*

**Гістарычны слоўнік беларускай мовы**. Выпуск 19. Надавней ‑ Небэзпэчность / Складальнікі Т.Блізьнюк ды інш.; Пад рэдакцыяй А.Булыкі. ‑ Менск: Беларуская навука, 2000. ‑ 396 с. ‑ Наклад 500 ас. ISBN 985-08-0415-7

**Друцак старажытны**: Да 1000-годзьдзя ўзьнікненьня гораду / Рэдакцыйная калегія: Г.Пашкоў (галоўны рэдактар) ды інш.; Мастак У.Жук. ‑ Менск: Беларуская энцыкляпэдыя, 2000. ‑ 128 с.: іл. ‑ Наклад 3000 ас. ISBN 985-11-0185-0

*Сёлета Друцак, цяпер вёсачка на Талачыншчыне, адзначае сваё тысячагодзьдзе. Да гэтага юбілею выдадзена шыкоўная кніга з усімі вядомымі зьвесткамі пра гэтае старажытнае паселішча. Кніга складаецца з храналёгіі гісторыі Друцку, гістарычнага нарысу, артыкулу пра Друцак у сыстэме гарадоў Полацкага княства, адмысловага разьдзелу пра князёў Друцкіх ды нарысу з археалёгіі паселішча. Кніга багата ілюстравана рысункамі, картамі, схемамі ды чорна-белымі й каляровымі фатаздымкамі. Каштуе 1100 руб.*

**Загародзьдзе – 2**: Матар'ялы навукова-краязнаўчае канфэрэнцыі "Палесьсе ‑ скрыжаваньне культур і часу" 25‑27 верасьня 1999 г., м. Пінск / Укладаньне й агульная рэдакцыя Х.Клімчука, В.Лабачэўскай. ‑ Менск: Тэхналегія, 2000. ‑ 207 с. ‑ Наклад 260 ас. ISBN 985-6234-90-5

*Матар'ялы зборніка падзелены на разьдзелы: археалёгіі, гісторыі, этнасацыялёгіі, культуралёгіі, фалькларыстыкі, этналінгвістыкі, этналёгіі, тапанімікі, дыялекталёгіі, літаратуразнаўства, краязнаўства ‑ аматар непаўторнае культуры палескага рэгіёну знойдзе тутака ўсё найноўшае з дасьледаванага апошнім часам. Зборнік прадаецца ў холе галоўнага корпусу Акадэміі навук за 2300 руб.*

**Замовы** / Укладаньне, сыстэматызацыя тэкстаў, уступны артыкул і камэнтары Г.Барташэвіч; Рэдакцыйная калегія: А.Фядосік (галоўны рэдактар) ды інш. ‑ Менск: Беларуская навука, 2000. ‑ 597 с. ‑ (Беларуская народная творчасьць / Нацыянальная акадэмія навук Беларусі, Інстытут мастацтвазнаўства, этнаграфіі й фальклёру). ‑ Наклад 1500 ас. ISBN 985-08-0402-5

*Замовы ‑ найстаражытнейшы від вуснае народнае творчасьці. У сабраных у кнізе ўзорах найвыразьней адлюстроўваецца супярэчлівы працэс сынтэзу паганскага сьветагляду й вераваньняў ды напластаваньняў хрысьціянства. Цана ‑ 620 руб.*

**Куфэрак Віленшчыны**: Гістарычна-краязнаўчы і літаратурна-мастацкі часапіс Віленскага краю. № 1, 2000. ‑ Маладэчна, 2000. ‑ 180 с., іл. ‑ Наклад 299 ас.

*Мэмуары, археалягічныя дасьледзіны, новыя дакумэнты, краязнаўчыя нарысы ‑ у альманаху "Куфэрак Віленшчыны", што прысьвечаны гісторыі і традыцыям паўночна-заходняе Беларусі. Набыць можна ў менскай сядзібе БНФ "Адраджэньне".*

**Літаратура Беларусі**: Першая палова XIX стагодзьдзя: Хрэстаматыя / Укладальнік, аўтар прадмовы, біяграфічных даведак ды камэнтароў К.Цьвірка. ‑ Менск: Беларуская навука, 2000. ‑ Наклад 2200 ас. ISBN 985-08-0398-3

*Апошняга разу хрэстаматыя беларускае літаратуры XIX ст. выходзіла дзесяць з гакам год таму. Цяперашняе выданьне значна дапоўнена выяўленымі за гэты час новымі творамі, але выйшла на горшай паперы й меншым накладам за папярэдніка ‑ "Беларускую літаратуру XIX стагодзьдзя".*

Я.Крук. **Сымболіка беларускай народнай культуры**. ‑ Менск: Ураджай, 2000 ‑ 350 с.: іл. ‑ Наклад 3000 ас. ISBN 985-04-0396-9

*Дасьледнік беларускіх народных звычаяў Янка Крук дае чытачу комплекснае ўяўленьне пра адметнасьці нашага традыцыйнага побыту й культуры. Значная ўвага аддаецца сымболіцы рэчаў і зьяў. Выклад папулярны. Каштуе 700 руб.*

**Сьвятліца**: Літаратурны альманах. ‑ Менск: СП "Мэдысонт", 2000. ‑ 160 с.

*Баранавіцкія паэты й празаікі, задзіночыўшыся, выдалі свой першы альманах, які мае даць уяўленьне пра цяперашні стан літаратурнага працэсу на Баранавіччыне. Сярод аўтараў многія пачыналі свой шлях у літаратуру на літаратурных балонах "Нашае Нівы" ‑ у "Грамафоне", "Эпіконе" й "Варштатах".*

М.Бусел. **Чаго чакаць беларусам ад Расеі?** ‑ Сьветлагорск, 2000. ‑ 28 с. ‑ Наклад 299 ас.

*Аўтар дае простыя адказы на пытаньні: ці адна ў нас з расейцамі кроў, дзе падзеліся сорак мільёнаў беларусаў, што адказваць на заявы кшталту "Хай прадаюць Беларусь, абы не было вайны"; разглядаецца паходжаньне расейскае каляніяльнае адміністрацыі, што кіруе Беларусяй, ды іншыя праблемы.*

Р.Платонов. **Белоруссия, 1941-й: известное и неизвестное**: По документам Национального архива Республики Беларусь. ‑ Менск: Беларускі навукова-дасьледчы інстытут дакумэнтазнаўства й архіўнае справы, 2000. ‑ 209 с. ‑ Наклад 100 ас. ISBN 985-6099 67-6

*На падставе архіўных дакумэнтаў аўтар раскрывае невядомыя і ўдакладняе вядомыя моманты пачатку апошняе нямецкае акупацыі ў Беларусі. Тэндэнцыйна ацэньваецца чыннасьць беларускіх грамадзкіх дзеячаў. У кожным разе, чытач можа зрабіць з апублікаваных дакумэнтаў свае высновы.*

**Падрыхтаваў Віктар Мухін**

# Кнігарня

Віктар Шніп

Кнігарні ў маіх Пугачах няма і ніколі не было. У магазыне акрамя хлеба, кансэрваў і гарэлкі заўсёды можна было купіць яшчэ сёе-тое, толькі ня кнігу. А мне так хацелася кнігі! І хадзіў я ў наш магазын амаль кожны дзень. І ўглядаўся на паліцы за шырокім прылаўкам, і пытаўся ў прадаўшчыцы, ці ёсьць казкі. Цётка зьдзіўлена глядзела на мяне і аднойчы сказала: "Каску можна купіць у Ракаве, дзе матацыклы прадаюцца..." Я не зразумеў прадаўшчыцы, як і яна не разумела мяне. І ўсё ж у клясе сёмай я такі ўгледзеў на адной з паліц сярод пляшак "чарніла" кнігу. Невялікую, крыху пажоўклую і памятую, з канкрэтнай назвай – "Кніга". Пару дзён я хадзіў каля зернесклады і шукаў пустыя пляшкі, здаваў іх у магазыне, а калі назьбіраў паўтара рубля, зьвярнуўся да прадаўшчыцы з просьбай: "Дайце мне кнігу..." Цётка не адразу зразумела, што я прашу, і перапыталася: "Што ты хочаш?" "Кнігу..." – паўтарыў я і паказаў, дзе яна стаіць. Прадаўшчыца, паглядзеўшы на "Кнігу", пачырванела, зьняла з прылаўка і, нейкую хвілю патрымаўшы ў руцэ, закрычала: "А што ж я табе гэта, паразіт ты гэтакі, зрабіла?! Во ўжо вывучыўся! Кнігу яму давай!" Доўга ня думаючы, я выскачыў з магазыну і з плачам пабег дахаты. Вечарам вярнулася мама з працы і адразу да мяне з пытаньнем: "Ты гэта што там у магазыне ўтварыў?" — "Нічога. Я толькі хацеў купіць "Кнігу"... — "Якую кнігу?" — "Тую, што на паліцы стаіць..." — "Дык гэта ж "Кніга скаргаў"...

Прыязджаючы ў Валожын у раёнку на літаб'яднаньне, якое я арганізаваў у 1980 годзе пры "Працоўнай славе", заўжды ў першую чаргу заходзіў у кнігарню. Зрэдку там купляў нешта, але тых кніжак, якія мне найбольш цікавілі, не знаходзіў. І я паскардзіўся паэту Пятру Бітэлю, што вось колькі ўжо часу езджу ў Валожын, а ўсё ніяк не магу купіць сабе талковай кнігі. Пятро Іванавіч суцешыў мяне: "Падыдзі да загадчыцы і скажы, што ты паэт, і ўсё будзе, што захочаш". Так, як мне параіў Пятро Бітэль, я не зрабіў. І ўсё ж, дзякуючы аднаму з супрацоўнікаў раёнкі, я пазнаёміўся з загадчыцай кнігарні. Жанчына, даведаўшыся, што я пакупнік не звычайны, завяла мяне на склад: "Выбірай, што хочаш..." І з таго дня, прыязджаючы ў валожынскую кнігарню, я адразу ішоў на склад.

У Менску ў "Цэнтральнай кнігарні" ў канцы 70-х і пачатку 80-х гадоў у беларускім аддзеле працавала паэтка Сьвятлана Каробкіна. Каля яе вечна стаялі людзі. Часта спыняўся і я. Сьвятлана, акрамя таго, што заўсёды пры сустрэчы скардзілася на сваё дрэннае здароўе і нялёгкае жыцьцё, расказвала, што творыцца ў культурніцкім асяродзьдзі. Дый ёй усе пра ўсё расказвалі. І часам каля Сьвятланы зьбіралася цэлая куча людзей. Адзін раз у кучу трапіў і я. Стаю, слухаю. Падыходзяць пакупнікі, пытаюцца, ці ёсьць тая ці іншая кніга. І раптам чую: "У вас Разанава можна купіць?" —"Пакуль яшчэ не..." – адказала Сьвятлана. "А Караткевіч прадаецца?" — "Караткевіч не прадаецца!" – адказаў адзін з нашых суразмоўцаў. І калі ўсе разышліся, Каробкіна сказала: "Запомні гэты дзень, ты побач з Уладзімерам Караткевічам стаяў..."

Неяк прыходжу ў "Цэнтральную кнігарню", а на месцы Сьвятланы Каробкінай стаіць незнаёмая дзяўчына. Нябрыдкая і зусім маладзенькая. І спадабалася яна мне. І стаў я амаль кожны дзень хадзіць у кнігарню ня кніжкі купляць, а толькі каб паглядзець на прадаўшчыцу. Гляджу на дзяўчыну, а пазнаёміцца ніяк не адважуся. І хадзіў я ў кнігарню да таго часу, пакуль не сустрэўся там у беларускім аддзеле зь Міколам Шэляговічам, які ўжо пасьпеў пазнаёміцца з прадаўшчыцай. Па-мойму, сёньня яна Міколава жонка.

Пасьля заняткаў у Літінстытуце, атрымаўшы стыпэндыю, адны ішлі ў магазыны па гарэлку, другія ў кнігарню *"На Кузнецком мосту"*. На першым паверсе кнігі прадаваліся для ўсіх. На другім жа, калі падымешся па вузенькай рыпучай лесьвіцы, можна, калі ў цябе ёсьць членскі білет Саюзу пісьменьнікаў СССР, купіць тое, чаго нідзе за звычайную цану ня купіш. Я *"На Кузнецкий мост"* хадзіў часта, і цяпер у маёй хатняй бібліятэцы ёсьць усё, што мне трэба для душы. Адзін раз пасьля заняткаў прыйшоў да мяне пісьменьнік зь Менску і кажа: "Цягнік у мяне няхутка. Давай звадзі мяне куды-небудзь..." І я павёў яго *"На Кузнецкий мост"*. Калі мы зайшлі ў кнігарню, пісьменьнік сказаў: "Ты куды мяне прывёў? Гэта ж не рэстаран..."

У мэтрах ста ад маёй кватэры – кнігарня. На пачатку дзевяностых беларускіх кніжак было там вельмі шмат. Стаялі поўныя зборы твораў Броўкі, Танка, Шамякіна, Макаёнка, Брыля... І тут раптам у магазынах, спачатку ў прамтаварных і прадуктовых, усё стала зьнікаць. Зайшоў у кнігарню. А там, дзе пыліліся зборы твораў нашых клясыкаў, стаяць красоўкі коштам у сто даляраў і ляжаць чырвоныя жаночыя трусы. Пытаюся: "А дзе кнігі?" — "Разабралі, – адказала прадаўшчыца трусоў і ціха дабавіла: — Калі хочаце, магу ныдорага прадаць Івана Навуменку..."

З бацькамі прыехаў у Ракава. Мама пайшла ў царкву, бацька ў магазын па цыгарэты, а я зь сястрой і братам у кнігарню...

# Вячаслаў Адамчык:
# "Для сяброў — цыгару, для сябе — кніжку"

**Пра кніжкі і пра кнігарні свайго жыцьця ў рэдакцыі "НН" распавядае пісьменьнік, аўтар тэтралёгіі "Чужая бацькаўшчына" Вячаслаў Адамчык.**

— У мае падлеткавыя гады кнігарняў ня вельмі было – ішла вайна. У тыя часы газэта, часопіс, кнігарня — зьява выпадковая, бо вакол пажары, сьмерць... Я нарадзіўся ў даволі беднай сям'і, хаты, калі бацька аддзяліўся ад дзеда, у нас не было. Мы жылі ў каморы, якую бацька адгарадзіў ад падпаветкі, дзе захоўваліся розныя вазы, сані, плугі, бароны.

У 1939-м годзе, з прыходам бальшавікоў, калі пачаўся масавы вываз няўгодных людзей, я здабыў першую кніжку. Прынёс яе ад стрыечных братоў, сям'я якіх была выслана ў Казахстан. Мой бацька кажа: "Хадзі ў іх хату, можа яшчэ там што знойдзеш". Сам, мабыць, баяўся ісьці. А я пайшоў. Хата пустая, вусьцішная, паўсюль салома ляжыць, страшна, карацей. І я ўбачыў кніжку, яна тырчала ў вакне, закрывала дзірку ў пабітай шыбе. Гэта быў польскі лемантар. Я яго з радасьцю прынёс дадому, а бацька кажа: "Ну вось, знайшоў сабе цацку". Бацькі мае былі непісьменныя. Аднак гэтая мая адзіная кніжка згарэла, калі вёску спалілі немцы. Другую кніжку мне падарыла няродная баба – падручнік па гісторыі. Ён у мяне не пабыў і два месяцы, як у нашай мясцовасьці зьявіліся нагнаныя немцамі казацкія сотні атамана Паўлава. Адзін з казакаў, агледзеўшы гэтую маю адзіную кніжку, забраў яе пачытаць. Так яна і зьнікла. Трэцяй, як ні дзіўна, была кніжка пра Катынь. Мне прынёс яе адзін пастушок. Кніжка была выдадзена Чырвоным Крыжам з прапагандысцкай мэтай, можа нават з удзелам саміх немцаў, бо якраз тады пад Смаленскам, каля Катыні немцы раскапалі трупы расстраляных польскіх афіцэраў, сярод якіх аказаліся і беларусы. Гэта было вялікае ілюстраванае выданьне з фотаздымкамі часопіснага фармату.

Аднойчы ішоў я па мястэчку, — я тады ўжо вучыўся ў акупацыйнай школе (навучаньне ішло па-беларуску, хоць настаўнікі ў нас былі яшчэ польскія) – і вецер падкаціў мне пад ногі з чорнага нейкага рынку чырвонцы, якія тады хадзілі поруч зь нямецкімі акупацыйнымі маркамі. Іх было 100. Для сваіх сяброў я набыў вялікую нямецкую цыгару, а для сябе — кніжку. Так адбылася мая першая сустрэча з кнігарняй. Я купіў зборнік сцэнічных твораў, дзе былі зьмешчаныя і Аляхновіч, і Чарот, і Купала, і шмат хто яшчэ. Таксама набыў кніжку-каляндар на 44-ы год. Вось такой была мая першая сустрэча з кнігарняй. Мне ішоў дзясяты год.

Наступнай маёй кніжкай быў падручнік па беларускай літаратуры, які мне выдалі ў школе. На яго старонках я шчасьліва натрапіў на два вершы, якія, можна сказаць, вызначылі мой далейшы лёс. Там быў верш Алеся Гаруна "Ты, мой брат, каго зваць беларусам..." і "Пагоня" Максіма Багдановіча з нотамі. Гэты падручнік быў выдадзены ў Менску ў часе акупацыі. Вершы кранулі маю чуйную душу, у першую чаргу сваёй мілагучнай веліччу. Такі харал, такая музыка вершаванага радка ў Багдановіча. Я імі моцна захапіўся, вывучыў на памяць, чытаў услых, цытаваў. Мае аднагодкі на мяне зь дзівам пазіралі. Яны ў той час шукалі які недапалак ад нямецкай цыгарэты. Я быў адзінокі ў сваіх памкненьнях.

Пасьля вайны зьявіліся "культмагі", але ў мяне – падлетка – грошай, вядома, не было. Аднак магнэс цягнуў мяне да кніжак. Помню, убачыў у культмагу, побач са сшыткамі, плыткамі для патэфону, далёка, на самай высокай паліцы, стаяла кніжка. Ледзьве ўпрасіў прадаўшчыцу яе паказаць. Гэта аказаўся зборнік вершаў Максіма Танка "Праз вогненны небасхіл". Яна сказала: "Ніхто не купіў, і ты ня купіш". Але дзякуй Богу, што хоць зьлітавалася, дала пагартаць.

Мой сусед-сірата набыў выдадзены ў 1945 годзе тамок выбраных твораў Янкі Купалы. А хату абклеіў газэтамі, а ў мяне ў той час нават газэт ня было, дык я прыходзіў да яго і чытаў тыя газэты. Вось на чым я вучыўся. І гартаў гэты зборнік — ён заўсёды ляжаў на стале, нібы біблія. Аднойчы сусед-сірата паглядзеў на мяне і кажа: "Бачу, ты так захапіўся вершамі, я табе яго падару. Але перад гэтым хачу сказаць, што адзін столькі вершаў, пэўна, не складзеш. Трохі ён ад сябе ўзяў, трохі ад іншых, вось і выйшла такая кніжка. Бяры яе сабе". Так у мяне зьявіўся ўласны Купала. Пасьля вайны ў кнігарнях, канечне, таксама зьяўляліся чыста савецкія кніжкі з прапагандысцкімі назвамі, як, напрыклад, зборнік вершаў Куляшова —"Камуністы". Гэта мяне крыху адчужала.



1947 год прынёс новыя кнігі, бо пачалі ўжо працаваць выдавецтвы, пачалі зьяўляцца гэтак званыя "юбілейныя выданьні", прыгадваецца, напрыклад, да "30-годдзя Кастрычніка". У гэтай сэрыі выйшлі даволі салідныя тамкі выбраных твораў Кузьмы Чорнага, Кандрата Крапівы, Зьмітрака Бядулі, таго ж Куляшова, таго ж Танка, Лынькова, нават "Гарачыя вятры" маладога Панчанкі. І гэтыя кніжкі сталі паступаць у бібліятэкі, і я іх чытаў. Набываць іх грошай у мяне не было. Капейкі зьбіраў на падручнікі. Пасьля, калі працаваў грузчыкам і пачаў зарабляць, дык стаў набываць у кіёсках даволі слабенькую нашую прозу — Пасьлядовіча, Хадкевіча. Усё нарыснае, кволае, але мяне неадступна цягнула да беларускага слова. Памятаю, як на нейкія грошы я купіў зборнік вершаў Алеся Бачылы "Подых вясны" і потым расчараваўся, як расчараваўся, прачытаўшы ў школе на шчыце ў газэце "Звязда" паэму Куляшова "Новае рэчышча", за якую яму была прысуджаная ганаровая Сталінская прэмія. Не адрываючыся, ад пачатку да канца я прачытаў гэтую паэму, і мяне ахапіла крыўда: за такія спрошчаныя вершы, ды прэмія. Я застаўся глыбока ўражаны і зьняважаны, і гэта мяне надоўга адхіліла ад Куляшова. А пасьля я зьвярнуў увагу на сам школьны падбор. Гэта была звычайная рыфмаваная прапаганда — "слаўлю Сталіна сталь", "камуністы — гэта слова як са сталі". Мяне ў той час захапляў Паўлюк Трус сваім шчырым узьнёслым радком. І як я не ўспрымаў танкаўскага верша "Не шкадуйце, хлопцы, пораху..". Ратаваў найбольш Багдановіч. Колькі разоў я ў той час вяртаўся да яго чароўнага слова ў падручніках ці ў кніжках, хоць і ня лёгка было іх знайсьці. І самае важнае, што зрабіла мяне нацыянальна сьвядомым, гадоў у пятнаццаць, — выдадзеныя ў Вільні кніжкі Адама Станкевіча "Хрысьціянства і беларускі народ", Антона Навіны "Адбітае жыцьцё", дзе ўжо прасочвалася беларуская ідэя. І я, невысокі розумам падлетак, нават асьмеліўся спрачацца з Адамам Станкевічам, як трэба ісьці па шляху да самавызначэньня, да нашай дзяржаўнасьці. Рабіў запісы, што той шлях, які прапануе Адам Станкевіч, на гэты час нам не падыходзіць. Ня толькі касьцёл ці царква павінны заклікаць да гэтага, але і мы самі павінны весьці змаганьне за родную зямлю, за страчаную хату...

Самаадукацыя дапамагала больш, бо школа нічога не давала. Школа была чыста савецкай. Настаўнікі — наежджыя, з Уралу, бо беларускіх арыштавалі адразу пасьля вайны. 60-я—70-я гады былі іншым часам, і я быў іншы чалавек. Я ўжо меў магчымасьць, між іншым, сабраць немалую бібліятэку, якую цяпер ужо растрос з-за ўсіх гэтых пераездаў з кватэры на кватэру. У асноўным зьбіраў кніжкі па падпісных выданьнях, выпісваў польскія газэты, часопісы па мастацтве для сына Валодзі — і баўгарскія, і вугорскія, і польскія, і маскоўскія, і нават з Паўночнай Карэі, зь бясконцымі партрэтамі Кім Ір Сэна. Шмат кніг я выпісаў, шмат пасьля аддаў сынам, у мяне засталася недзе трэцяя частка. Тады беларускіх кніжак выдавалася больш, чым цяпер, і нашмат больш. Можна гаварыць пра якасьць, узровень літаратуры, тэндэнцыйны падбор, але гэта ўжо іншая гутарка. І наклад, і колькасьць былі ў некалькі разоў большыя, шмат выдавалася збораў твораў. Пасьля кніжак стала меней, як пачалі зьнікаць беларускія школы і пачалася палітыка, якую праводзіў сёньня чамусьці ўсхвалены Машэраў, які ня толькі нашую мову, але й нашае Палесьсе губіў брэжнеўскай мэліярацыяй.

Гэтая палітыка працягваецца і цяпер. Хоць запрашэньні на выбары тады дасылалі напісаныя па-беларуску, а нядаўна я атрымаў — па-расейску. Хоць бальшавікі і ціснулі беларусаў страшэннымі падаткамі, але квіткі друкаваліся па-беларуску. А цяпер, даруйце, я беларускай мовы нават на вуліцы ня чую. Поўная русіфікацыя. І гвалтоўная.

Сёньняшняя кнігарня вымагае вельмі вялікіх грошай. Можа і пачало выдавацца тое, што было забаронена — кніжкі і неабходныя дакумэнты, якія раней трымалі ў спэцсховішчах. Але сёньняшні дашчэнту зьбяднелы чалавек ня можа набыць кніжку, бо ён зарабляе столькі, колькі яна каштуе.

Беларускія выдавецтвы зараз заваленыя, не таму, што многа выдадзеных кніг, а таму, што многія рукапісы ляжаць нявыдадзеныя. Беларуская кніжка пайшла не на кірмаш, бо да кірмашу яна стала не дарастаць, яна пайшла ў нетры. А калі цяжкія справы з нашай кніжкай — то цяжкія справы з нашай культурай, з нашым прыгожым пісьменствам, з нашай адукацыяй, з нашым духоўным разьвіцьцём. Праўда, салідны, прыгожа аформлены фаліянт тэкстаў Адама Глебуса ўсё ж трапіў на міжнародны кніжны кірмаш. Дзяржава зараз найперш дбае пра сілавыя структуры. Мастацтва, тэатар, кіно, бібліятэкі — усё ў заняпадзе, бо няма грошай — няма й цікавасьці. Калі раней у выдавецтве "Мастацкая літаратура" працавала 100 чалавек, то зараз — 15—20. Адпаведна яны выдаюць у 10 разоў менш кніжак.

Тое, што беларуская мова не падтрымліваецца, я бачу ў штодзённым жыцьці, нават па транспарантах, якія вісяць над праспэктам Скарыны. Нават сэсія парлямэнту не вядзецца па-беларуску. Выбачайце, а дзе яны засядаюць? У якой краіне, у якой дзяржаве жывуць? Выбраньнікі народу далёкія ад народу. Аднак я спадзяюся, веру, што мы выжывем. Я заўсёды думаю, што калі Ўкраіна будзе мець незалежнасьць, то чарга прыйдзе й да Беларусі. Бо ўжо ўсе наўкола нас зразумелі, што ім лепш жыць самастойна. Надыдзе і наш час. Веру.

**Запісаў Андрусь Белавокі**

## каляндар

**14 лістапада 1900 г.** у Капылі нарадзіўся беларускі пісьменьнік Нічыпар Чарнушэвіч. Ён даводзіўся братам пісьменьніку Міколу Хведаровічу. У 20-х г. Н.Чарнушэвіч настаўнічаў на Капыльшчыне і паралельна вучыўся на гістфаку БДУ, быў загадчыкам аддзелу "Савецкай Беларусі", асяродка беларушчыны ў тыя гады, і рэдактарам студэнцкага часопісу "Голас студэнта". Быў адным зь першых арыштаваных па справе Саюзу Вызваленьня Беларусі. Яго выслалі ў Вятку. Другога арышту пашанцавала пазьбегнуць, але дзеля гэтага давялося папаезьдзіць па прасторах СССР. У 1947 г. Нічыпар Чарнушэвіч вярнуўся ў Беларусь, дзе і пражыў яшчэ 40 год. Толькі сухоты, вынесеныя зь менскай "амэрыканкі", не давалі спакою.

**17 лістапада 1800 г. у вёсцы Аборак на Маладачаншчыне нарадзіўся Леанард Ходзька, выдавец, публіцыст, бібліёграф.** У 1816-1817 гг. ён вучыўся ў Віленскім унівэрсытэце. Навука ў віленскай альма-матэр зблізіла маладога чалавека з Адамам Міцкевічам, Тамашом Занам, Янам Чачотам. Ходзька ўступіў у таварыства філярэтаў. Далей яго меў бы чакаць звычайны для інтэлігента-ліцьвіна шлях: таварыства філяматаў, акцыя 1823 г., удзел у лістападаўскім паўстаньні 1830 г. Але гэтага не адбылося. Маладога чалавека прыкмеціў Міхал Клеафас Агінскі і запрасіў яго стаць сваім сакратаром. Ходзька старанна перапісваў дзёньнікі, зьбіраў нотныя сшыткі і малюнкі вялікага ліцьвіна. У 1823 г. Ходзька і Агінскі пакінулі Літву і выехалі на эміграцыю. Дзякуючы Леанарду Ходзьку былі выдадзеныя мэмуары Агінскага, творы Міцкевіча. Ходзька напісаў біяграфію Тадэвуша Касьцюшкі і "Папулярную гісторыю Польшчы". Ён быў аўтарам кніг па гісторыі, геаграфіі, культуры былой Рэчы Паспалітай, сабраў 125 тамоў дакумэнтаў па гісторыі Польшчы, Літвы, Украіны, Беларусі. Памёр у 1871 г.

**17 лістапада 1875 г. у Нью-Ёрку Алена Блавацкая заснавала "Тэософіческое общество".** А.Блавацкая падарожнічала па Паўночнай Афрыцы, Малой Азіі, Амэрыцы, Эўропе. У 1873 г. яна прыехала ў ЗША, дзе і заснавала таварыства, якое вельмі хутка перанесла сваю дзейнасьць у Індыю. Вучэньне Алены Блавацкай было пабудаванае на дзіўным сплаве містыкі будызму з акультызмам і нетрадыцыйным хрысьціянствам. Сучасьнікі лічылі гэта шарлятанствам, тым больш што многія "фэномэны", пра якія яна пісала, былі ёю падстроены.

**18 лістапада 1925 г. пачала выдавацца газэта "Беларуская ніва", орган Беларускай сялянска-работніцкай грамады**. Рэдактарам-выдаўцом быў Я.Марцінеўскі, у склад рэдакцыі ўваходзілі Пётра Мятла, Сымон Рак-Міхайлоўскі, Браніслаў Тарашкевіч. Пры канцы 1926 г. выданьне газэты было спыненае.

**19 лістапада 1700 г. у ходзе Паўночнай вайны паразай скончылася асада Нарвы, тагачаснай швэдзкай фартэцыі, войскамі Пятра I.** У гонар паразы Пятра ў Швэцыі была выпушчаная адмысловая манэта: расейскі цар бяжыць у паніцы, выціраючы сьлёзы. Каб швэды замацавалі гэтую перамогу, можа па-іншаму склаўся б лёс Рэчы Паспалітае і Вялікага Княства Літоўскага, не было б крывавага патопу Паўночнай вайны, у выніку якога беларусы страцілі кожнага трэцяга.

**Алег Гардзіенка**

* * *

Я зганьбаваную сьвятыню
як мог, што сілаў, аднаўляў.
На помач клікаў на чужыне,
шляхі і вехі ўстанаўляў.

І благаслаўлены Ўсявышні
нас верай, сілай надзяліў, -
народ наш на зямлі ня лішні,
ён будзе жыць, як хваль прыліў!

**Кастусь Акула**
**1981 г.**

# Птушатнік зь Верацеяў

**Працяг са старонкі 1.**




Убачыўшы магутную постаць Акулы, старыя бармэны з пабаў у лёнданскім раёне Фінчлі прыгадваюць беларускія словы і нават цэлую наскую песьню – “Ад панядзелка да панядзелка...”

Замшэлыя барытоны й тэнары колішняга Чырванасьцяжнага ансамблю песьні й танцу Савецкай Арміі часам бачаць у жудлівых снах, як на цырымоніі пачатку іхніх гастроляў у Канадзе нейкі містэр шырака й зычліва ўсьміхнуўся ім і па-расейску, зь мяккім знаёмым акцэнтам пачаў прамаўляць: “Мы сердечно приветствуем вас на свободной канадской земле и ненавидим антинародный кремлевский режим точно так же, как и вы его ненавидите”.

Добра памятаў К.Акулу былы намесьнік старшыні Савету Міністраў Савецкага Саюзу тав.Палянскі, які, аглядаючы ганаровую варту ў “дзень СССР” на выставе ЭКСПО-67 ў Манрэалі, раптам пачуў мала слабейшы за ерыхонскую трубу голас: “*Death to Moskow murderers! Freedom for Belarus!*” і апынуўся пад дажджом з сотняў улётак. (Па дарозе ў суд затрыманы аўтар “гепэнінгу” пасьпеў растлумачыць канваіру, што ягонае, канваірава, прозьвішча зусім ня нейкі там няўцямны Козэлл, а спрадвечнае, сьветлае й яснае, беларускае – Казёл.)

У 90-я гады Кастусь Акула колькі разоў наведаў Бацькаўшчыну, пакінуўшы па сабе неардынарныя ўражаньні ў грамадзянаў сувэрэннае Беларусі самага рознага статусу й роду заняткаў – ад аднавяскоўцаў і дыспэтчаркі з аўтастанцыі ў Плешчаніцах, што ледзь не перажыла інсульту, упершыню ўбачыўшы перад сабою пасажыра, які запатрабаваў кавы, да манашак полацкага Спаса-Эўфрасіньнеўскага манастыра і адказных таварышаў з БТ, якія ўсё ж выпусьцілі ў этэр інтэрвію зь нядобранадзейным замежным літаратарам, бо ў тыя часы на БТ яшчэ ня “чыкалі”, а толькі “цыкалі”.

Тады нарэшце адбылася сустрэча Акулы з нашым чытачом. Як выглядае, яе чаканьне было ўзаемным. Фрагмэнты з “Усякае ўсячыны”, “Гараваткі” ды іншых кнігаў Кастуся Акулы надрукавалі, бадай, усе беларускія часопісы, а ў 1994-м у “Мастацкай літаратуры” быў перавыдадзены раман “Змагарныя дарогі”.

Ужо дзьмуў новы вецер. Раман быў падпісаны ў друк на трэці дзень пасьля перамогі Лукашэнкі на прэзыдэнцкіх выбарах. Відаць, з гэтае прычыны наклад, параўнаўча з колькасьцю заявак, рэзка зьменшылі да 6 тысячаў. Але Аляксандар Рыгоравіч рэабілітаваўся, беспасярэдна прычыніўшыся да рэклямы “Змагарных дарогаў”. У часе тэлесустрэчы з новым начальнікам краіны малады аматар палітычных даносаў буйным плянам прадэманстраваў з экрану “нехорошую” кнігу ў зграбным пераплёце сталёвага колеру, заклікаючы разабрацца, куды ідуць народныя грошы. Начальнік паблажліва паабяцаў.

У выніку “Змагарныя дарогі”, асабліва ў Менску, былі імгненна раскупленыя. Колькі месяцаў кніга займала высокія пазыцыі ў сьпісе беларускіх бэстсэлераў, а адтуль пазьней перавандравала ў пералік 100 беларускіх кніг ХХ стагодзьдзя (а значыць, некалі абавязкова будзе зноў перавыдадзеная).

Увесь гэты час доўжылася высьненьне, куды ж пайшлі народныя грошы. Кропку паставіў Беларускі ПЭН-Цэнтар, прысудзіўшы Кастусю Акулу літаратурную прэмію імя Францішка Багушэвіча.

Развагі пра творчасьць Кастуся Акулы, яе кантэкст, традыцыйнасьць і наватарства пакідаю літаратуразнаўцам. (Пагатоў, свае дылетанцкія ўражаньні я калісьці ўжо выказаў у прадмове да “Змагарных дарогаў”.) Зазначу адно, што бяз гэтага раману, напісанага на далёкім беразе Антарыё, беларуская ваенная проза засталася б трохі кульгавай.

Мо яшчэ колькі слоў пра тое, што літаратуразнаўцам, магчыма, невядома.

Кастусь Акула называе сябе птушатнікам, то бок непрафэсійным арнітолягам. Ён можа зь неўдаванаю скрухаю напісаць, што ў Таронце памерлі ад марозу вераб’і. Бываючы ў Беларусі, ён захоплена глядзіць на кожную сароку, бо ў Канадзе гэтыя птушкі не вядуцца й успрымаюцца як экзоты кшталту якога-небудзь какаду.

А птушка, якую вы бачыце, – самы сьвежы ліст ад Акулы ў Беларусь.

Беларускі пісьменьнік, які ў 75 гадоў малюе птушак, мусіць жыць доўга.

## Алесь Бажко

## НА ВУЗКАЙ КЛАДЦЫ

*Устаўка ў дасье містэра Кастуся Акулы, платнага амерыканскага “вызваліцеля Беларусі”*

Знімі, панок, руку з майго пляча,
Глядзі, каб сам не паляцеў з маснічын.
Я не магу і не хачу маўчаць,
Калі сцярвятнік жураўлём курлыча!
Я гэты крык нашу ў сабе з вайны.
Ён як асколак пад рабром, як куля,
Каб не хацеў – наробіш гаманы,
Калі пачне старыя раны муляць.
Ты ж не лічыў нас, грэшных, за людзей
На часткі рваўся – дагаджаў панам
І сам на “чэрнь” з пагардаю глядзеў,
Таму не ясна, з кім, калі і дзе
Ты падсабляў як “вызваліцель” нам
А мог жа, мог падняцца на ўвесь рост,
Мог падсабіць сваей радні, народу,
Ды ў стэп не той зноў перакінуў мост,
Як быццам хто прыстукнуў мімаходам.
...Падумаць толькі – Беларусь жыве!
І хвацкіх песняроў у ёй багата...
А ў гана зноў інтрыгі ў галаве,
Клянеш усіх і... молішся на атам!
У “рамках поўнай згоды з ЦРУ”.
Ты ж без яго – пустое месца, нуль!
Я гэтых слоў назад не забяру,
Кумір заморскіх Волек і Гануль.
Мастак курлыкаць ты яшчэ не раз,
Як правакатар з даваенным стажам,
На ўсіх шыротах будзеш ганіць нас,
Хоць ім пра гэта ні гу-гу не скажаш.

**Газэта “Літаратура і мастацтва”, 25.II.1983**
**[Артаграфія арыгіналу]**

# Жыццяпіс



Кастусь Акула (Аляксандар Качан), народжаны 16 лістапада 1925 г. у вёсцы Верацеі (с/с Каралеўшчына, Докшыцкі р-н, Віцебскай вобл.). Бацька — Ігнат, маці — Паўліна. У сям’і было 8 дзяцей. Бацька меў 12 гектараў ворнай зямлі. Надта працавіты й сумленны селянін, ён таксама стараўся даць магчымасьць дзецям вучыцца.

Я вучыўся ў польскай пачатковай і пасьля савецкай школе. Падчас нямецкае акупацыі скончыў шасьцімесячныя курсы для настаўнікаў пачатковых школаў у Глыбокім, працаваў настаўнікам у Порплішчах. Налета паступіў у Віленскую беларускую гімназію. Увосень 1943 г. у Менску трапіў у нямецкую аблаву і адседзеў 4 месяцы ў вязьніцы і канцлягеры.

У чырвені 1944 г. паступіў добраахвотнікам у Школу Камандзераў Беларускай Краёвай Абароны ў Менску. Школа пакінула Менск 29 чырвеня. У канцы жніўня, у Францыі, яна арганізавана перайшла да французскіх партызанаў. У сьнежні я ўступіў у Брытанскую восьмую армію ў Італіі (Другі польскі корпус).

Ад студзеня 1945 году да канца вайны ў Італіі браў удзел у акцыі супраць немцаў, атрымаў як узнагароду “*Мэдаль за вайну*” і “*Зорку Італіі*”. Ад сярэдзіны траўня да канца наступнага красавіка знаходзіўся ў Англіі на Школе Падхаронжых Панцырнай Зброі ў Катэрык Кемп у Ёркшыры. Пасьля вярнуўся яшчэ раз у Італію, дзе з рангай капрала падхаронжага праходзіў практычныя заняткі. Вярнуўшыся ў Англію, у чэрвені 1947 году выехаў у Канаду.

Папрацаваўшы трохі на кантракце на фэрме, перабраўся ў Таронта. Галоўная мэта – палажыць пачатак арганізаванага беларускага нацыянальнага жыцьця ў гэтай краіне. 30-га кастрычніка 1948 г. ініцыятыўная група — 14 чалавек, — у Таронце залажыла Згуртаваньне Беларусаў Канады, мяне выбралі першым старшынём. Ад пачатку 1948 году да 1954 г. рэдагаваў месячную газэту “Беларускі Эмігрант” (поўную яе копію на істужцы пераслаў я сп-ру Лявону Пранчаку).

У 1950 годзе ажаніўся зь беларускай, Надзяй Вернай. Чацьвёра дзяцей (сын памёр у 1972 г. у веку 20 гадоў ад цукрыцы), сын Юрка скончыў Таронцкі ўнівэрсытэт (сацыялёгію), цяпер жыве ў Манрэалі. Дачка й сын у Таронце.

Я працаваў на індустрыі, найперш у Масы Фэргусон на працягу 18 гадоў, а пасьля ў дзьвёх іншых кампаніях. Ад 1-га студзеня 1990 году адыйшоў на пэнсію.

Цэлы час браў актыўны ўдзел у беларускай грамадзкай працы, шмат часу пасьвячаў журналістыцы і антыкамуністычным акцыям як на беларускім, так і на міжнацыянальным франтох. Творчая праца на літаратурнай ніве давала добрую падтрымку ў нялёгкім эміграцыйным быце.

*Творы: “Змагарныя дарогі”, раман (1962).*

*“Гараватка”, трылёгія: “Дзярлівая птушка” (1965), “Закрываўленае сонца” (1974), “Беларусы, вас чакае зямля” (1981).*

*“Усякая ўсячына”, проза, паэзія, п’еса (1984).*

*“За волю”, раман (1991).*

*“Tomorrow is Yesterday”, раман (1968).*

На працягу некаторага часу пісаў у расейскамоўны часапіс (быў сябрам рэдкалегіі) “Современник” у Таронце, таксама пісаў у парыскі часопіс “Континент”.

У 1951 г. бацьку замардавалі ў канцлягеры, дзесьці каля Барысава. Дэталі мне невядомыя.

Цяпер рэдагую часопіс вэтэранаў “Зважай”.

P.S. Некаторы час карыстаўся, у журналістыцы пераважна, псэўданімам Міхась Козыр.

P.P.S. Хачу вытлумачыць сказ з тэй аўтабіяграфіі: “Налета паступіў у Віленскую беларускую гімназію”. Гэта было ў верасьні 1943 году. Я здаў іспыты ў восьмую (апошнюю) клясу. Скончыць мне яе не ўдалося, бо па дарозе дадому (трэба ж было прывозіць з дому харчы) заехаўся ў Менск і там трапіў у аблаву. Адседзеў тры месяцы ў вязьніцы й адзін месяц у канцлягеры, што быў ля Камароўкі. Гледзячы назад, не шкадую таго, што ня маю фармальнай сярэдняй адукацыі, бо лепшую навуку дала мне вязьніца й канцлягер. Прашу зразумець: пішу гэта таму, што ўжо некаторыя людзі, гаворачы пра мяне ці пішучы, робяць і такое: “скончыў Віленскую беларускую гімназію”. На маёй пасьветцы з гімназіі (яна, пасьветка, цяпер знаходзіцца ў Лёндане ў Скарынінцы) напісана: “Неклясыфікаваны з прычыны хваробы”.

Праўда, апынуўшыся ў Другім корпусе польскай арміі ў Італіі, здаў я экзамэн з “малой матуры”. Без “малой матуры” не загадалі бы мне ехаць на школу падхаронжых у Англію, якую я скончыў, хоць польскі памешчык Палішэўскі, камандзер Школы, даў мне апошнюю “лёкату”, а гэта з прычыны маёй нацыянальнасьці. Я хацеў адмовіцца, а пасьля падумаў, што як маеш на мундзіры пагоны падхаронжага, каторыя даюць табе ў войску афіцэрскія правы, дык да цябе ўсе інакш адносяцца. І я не памыліўся.

**К.Акула**
**19.2.1993**

стары фэльетон

# Сходзіны*

Сядня ў Нью Ёрку адбыліся сходзіны чала Ўсекрывіцкага Руху й Ордэну Двупагоні. Ладная лічба з гэнкіх прысутных толькі надовечы зрабіла ўлазіны ў Гаспадарствы Злучаныя Амэрыканскія.

Усі сябры й госьці сходзіліся паважліва ды займалі лавы й услоны поблізу дохтарчынага крэсла, зь якога наскі дохтар, прахвэсар, інжынер Іванька Склют маў прагаласіць водчыт.

Спачатна прыйходзілі малажлявыя сябры й сябрыхі, за імі-ж прыбывалі й старэйшыя. Напокуці на ўслоне разьмясьціўся ведамы мудрыц Гапон Казановічык. Побач расьселіся: дзеўка Хвядося ў салёпцы, вучыцелчын плямяньнік Піліпянё Панасюк. Гэттака-ж перазь іхныя плечы відаць было бы курводку Гапульку і ейнае рабё. За ёю было відаць яшчо колькадзесят людзёў. Між імі выдзяляліся харашлявыя Лявон, Сілівон, Гапон, Сапрон і Харытон – людзі разумныя й сярод крывіцкага руху слаўныя, што не абы якія мазкі малі. Усюдах чутная была мова крывічанская – скарынінская. У дзьвярох наская паліца пераверывала прашпарты, каб усьцерагчыся варагоў. Усяго ў салі сходзінаў зьбралася дабрусенькіх да асьмідзесят чатырох сябраў.

Па неськім часе запанавала ціша. У салю паважліва зрабіў уходзіны ў суправодзе чэлядзі быўшы вайводаў сябра, гарапяка крывіцкага руху, магістар Ордэну Двупагоні, ведамы мудрыц і філялёг мовы крывіцкае паўшэхнае, слаўная думніца – ацец і вучыцел руху паспалітага, усекрывіцкага – прахвэсар, дохтар, інжынер, акадэмік Іванька Склют.

Гэттака-ж усе ўсталі й адале пачаліся нямоўкныя воплескі й выгукі: “Віват, вашэць! Ваські дух із намі! Дапаможам вашэці ўздолець чужнікоў і варагоў!”

Ягонае-ж шаноўства, узважліва кіўнуўшы думніцай ва ўсе стараны, падыйшоў да ордэнскага крэсла. Хусьцінай выцер чало й ачкі, каўтнуў вадзіцай із шкляной пасудзіны й распачаў гаворку. Гаварыў ён на тэму: “Вузлы й ніці руху ўсекрывічанскага, з Ордэнам Двупагоні зьвязанага, на наськай дамашняй глебе выраслага й нашы задачы сядня ў Задзіночаных Гаспадарствах Амэрыканскіх”.

Гэнкі водчыт цягнуўся доўга, але тыі прысутныя ё людзьмі церплівымі й кемкімі, дык просьле водчыту разьвярнулася вялікая дыскуса. Разьбіраліся ноўшыя хормы барацьбы з чужнікамі ўдома і ўсюдах.

Просьле ўсяе дыскусы было спаладжана йгрышча крывіцкае. На гэнае йгрышча дайшлі йшчэ йгрыцы із снасьцямі: з дудой, бубнам, літаўрамі й цымбаламі ды йскрыпкай. На сталох было падрыхтавана еміна й пітво. Падсілкаваўшыся й выпіўшы ладне, усі кінуліся ў скокі пад зычную музыку ігрыцоў. Дзекаторыя ірзалі зь весялосьці й радошчаў.

Наські дохтар быў і не абы які гуляка. Узяўшыся пад бакі, ён прытупнуў нагою й пазаліхвацку зацягнуў песьню: “Зажурылась пападзьдзя што поп з барадою”.

Ігрышча скончылася просьле першых пятухоў. Наканцы ўсім была прагаломшана ведамка, што ў другую нядзелю адбудзецца ўсекрывіцкі выбег паза Нью Ёрк.

Подля ведамак, зьбраных Цэцыляй і Даміцэляй і апрацаваных Януком і Пpануком

** Гэты фэльетон, аснованы на мове вядомага філёляга й палітыка, быў зьмешчаны ў “Беларускім Эмігранце”, № 8 (30) за 30-га верасьня, 1950 году ў Тароньце. (Заўвага аўтара.)*

**Кастусь Акула. Усякая ўсячына: Проза, паэзія, п’еса. – Выданьне “Пагоні”, Таронта, 1984. ISBN 0-96908969-6-2**
**[Артаграфія арыгіналу]**

водгукі

## ЯК СЬВЯТУЮ ГАРУ АД КАМУНІСТАЎ ПЕРАХАВАЛІ

Слынны сучасны беларускі вандроўнік і бард Зьміцер Бартосік вельмі шкадуе, што ў Беларусі ёсьць гара Дзяржынская і няма гары Сьвятой (гл. "НН" № 44, "Аптэка на Францішканскай").

Гэта не зусім так. Нават у самыя злыя камунячыя часы ў Беларусі былі і гара Дзяржынская, і гара Сьвятая. І гара Сьвятая — вышэйшая. Гара Сьвятая ‑ найвышэйшая кропка Беларусі, знаходзіцца на поўнач ад вёскі Скірмунтова (на мапах "Скірмантова", людзі ж кажуць "Скірмунтова"). З краю вёскі ёсьць лесапілка. І камунякі, напэўна, з найлепшых сваіх камунячых меркаваньняў, зрабілі знак гары Дзяржынскай і паставілі яго не на найвышэйшую кропку Беларусі, а ў двары тае лесапілкі, недалёк ад шляху на Івянец. А калі прайсьці гасьцінцам на вёску Глушынцы, то праз некалькі сотень мэтраў стаіць трыангуляцыйны знак ‑ гэта й ёсьць найвышэйшая кропка Беларусі: гара Сьвятая. Такім чынам, камунякі ішлі ў двор лесапілкі да гары Дзяржынскай, а сапраўдныя беларусы ‑ да гары Сьвятой. Але, добра ведаючы хітрых месьцічаў, можна задумацца "А можа, нейкі разумны беларус зрабіў гэта наўмысна, каб захаваць для Беларусі гару Сьвятую?"

Увогуле гэтыя мясьціны вельмі прыгожыя. Вядомы беларускі турыст і дзіцячы пэдагог Мікалай Мурашка распрацаваў надта цікавы турысцкі маршрут з Койданава да Аксакаўшчыны праз гару Сьвятую і вытокі Ісլачы. Маршрут прыгожы і цікавы, лёгка праходзіцца нават дзеткамі, якім менш за 10 гадоў, нават на восеньскія вакацыі. Трэба толькі дамовіцца з школамі ў Вялікіх Навасёлках і Скірмунтове пра начлег. Раней гэты маршрут хадзілі кожны год.

А ў гэтай вандроўцы Зьміцер Бартосік, відаць, праехаў міма многіх знакамітых мясьцінаў. Гэта Малыя Навасёлкі ‑ радзіма Міколы Ермаловіча. У Вялікіх Навасёлках ‑ магіла Каруся Каганца і добра захаваны панскі палац. А паміж Вялікімі Навасёлкамі і Машніцай ‑ магутнае рэчышча Ўсы з "астанцамі", па якіх бачна, як зьмяніўся ляндшафт.

**Валер Бадун, Менск**

## "З КАСТРАЧНІКАМ!"

Хачу працягнуць распачатую некалі ў "НН" размову пра графіці.

Старажытны Пінск расьпісваюць рэгулярна і цікава. Напярэдадні выбараў горад ізноў расьпісалі ‑ надпісаў было шмат, і былі яны паўсюль. Шмат як ніколі. Шкада хіба, што "бягучы момант" патрабаваў ад аўтараў адпаведнай тэматыкі, дзе цяжка быць арыгінальным: "Выбары ‑ падман", "15 кастрычніка ‑ гэта фарс" і г.д.

Трохі раней, у гадавіну ўступленьня Рыгоравіча на пасаду, пінчукі арыгінальнічалі: "У Лукі гаворкі, што ў дурня махоркі", "Водка дорожает — Лука процветает", "Лукец-амбец" — красаваліся надпісы на платах і сьценах уздоўж Першамайскай.

А год таму, напярэдадні чарговай гадавіны кастрычніцкага перавароту, сярод іншых выдзяляліся два надпісы ў цэнтры гораду на вуліцы Леніна: "З Кастрачнікам!", "7 ноября ‑ поцелуй упыря".

Ня выключана, што ў хуткім часе, нагледзеўшыся на графіці, пінчукі будуць вітаць тых, хто дагэтуль сьвяткуе 7 лістапада, словамі "З Кастрачнікам, упыри!".

**Аляксей Дзікавіцкі, Пінск**

## ДУМКІ НАД "НІВАЙ"

Атрымала 200-ы, з 23 кастрычніка, 2000, нумар "Нашай Нівы". Чытаю "Пяцёрка па расейскай" — інтэрвію з карэспандэнтам Ю.Сьвіркам, які 15 кастрычніка на выбарчым участку браў інтэрвію ў Лукашэнкі па-расейску.

На пытаньне "НН", чаму не па-беларуску, карэспандэнт даваў доўгія, непераконваючыя высьненьні. І на кожны зь ягоных чатырох аргумэнтаў у думках яму адказвала "Усё роўна, тым болей трэ было гаварыць па-беларуску".

Чаму? Рэч простая. Калі мы ня будзем шанаваць сябе, усяго свайго, сваю мову, дык хто тады нас ды нашую беларускую мову будзе шанаваць!? Ніхто на сьвеце!

Калі ж карэспандэнт у сваіх высьненьнях-апраўданьнях дайшоў да пункту пятага й сказаў, што ягоная "родная мова расейская", хоць мовай ягоных продкаў была беларуская, і што гэтага, як і ў Лукашэнкі, зьмяніць нельга, дык сказала яму: "Чалавеча, чаму ж ты гэтага адразу не сказаў?" Праўда, чытач і так здагадваўся, што зь беларушчынай ягонай душы ня ўсё ў парадку, што ў ягонай душы шмат, як немец кажа, "эрзацу". (У часе вайны ў Нямеччыне не было сапраўднай кавы, а быў "эрзац" — непаўнавартасная замена кавы.)

* * *

А Ніне Мацяш Бог адказвае, так вучыць хрысьціянская рэлігія — Ісус Хрыстос: "Даў я табе, Ніна Мацяш, жыцьцё, вялікі дар-здольнасьці і заданьне-місію праз усё жыцьцё быць сьветачам для Тваіго народу, навучаць яго, як ачысьціць і самой ачышчаць "сьметнік", на якім ты апынулася, як з "псярні" зрабіць людзкое жытло. Я "пасадзіў", як Ты кажаш, ізраільскі народ на пустыню і ён з пустыні зрабіў квітнеючыя сады...".

Гэта ня я, а Бог так кажа. Я скажу другое, што мы грашым перад Богам, абражаем Яго, калі ганьбуем ЯГОНЫ НАМ ДАРАМ — нашую беларускую мову, калі мы выракаемся яе. (Гэта пэўне ж кажу не да спадарыні Ніны Мацяш )

* * *

У 41-м нумары "НН", на бачыне МОВА-2000, гаворка пра прозьвішчы. У нас у Пружане да 1942 году, пакуль я была ў Беларусі, суседак-жанчын называлі па прозьвішчу Жыкоўшчыха, Дудзейчыха, Капаровічыха, Канцэвічыха, але і па імю мужа Вінцулёвая (жонка Вінцэнта, Вінцука, Вінцуля), Фальчучыха — выйшла замуж за Фэлікса-Фальчука, Сымоніха. У Пружанах была беларуская дзяячка Кацярына Стаўбунік, якую абсалютна ўсе называлі Стаўбуніха.

На першай, якую мне давялося наведаць, лекцыі беларусаведы др.Янка Станкевіч гаварыў якраз пра беларускія прозьвішчы, што беларускія хормы прозьвішчаў для замужніх жанчын канчаюцца на -чыха, дзявочыя ж — на -чанка. І так жонка Жукоўскага — Жукоўшчыха, іхная дачка — Жукоўшчанка, Трафімучыхі — Трафімучанка, Канцэвічыхі — Канцэвічанка. Я, слухаючы др.Станкевіча, цешылася, што ў нас якраз гавораць правільна, і таму гэтую лекцыю добра запамятала.

* * *

Наватворы могуць тварыць паэты — ад калыскі беларускамоўныя носьбіты мовы, зь вялікім вычуцьцём прыгаства й духу мовы, калі ім у творчасьці само напрошваецца прыгожае слоўца ў беларускім духу. Прыклад з Танка — "кагарка" — песьня-крыкі птушак-чаек "ка-га! ка-га!" так прыветліва ўзьдзейнічалі на душу паэты, што ён адгукнуўся птушцы "кагарка! кагарка!"

**Раіса Жук-Грышкевіч, Таронта**

## ПРАСПЭКТЫ БАГУШЭВІЧА І ЕРМАЛОВІЧА

Дазвольце мне зрабіць прапанову наконт увекавечаньня імя Францішка Багушэвіча. Лічу, што вуліцы для такой постаці як Ён, хоць бы і ў цэнтры, будзе замала.

Бо Цэнтар ‑ гэта Гісторыя, традыцыя, у яго свае спрадвечныя назовы, якія трэба вяртаць. Я прапаную перайменаваць вуліцы Магілёўскую, Аранскую ды Партызанскі праспэкт у праспэкт Францішка Багушэвіча.

Таксама падтрымліваю ідэю перайменаваньня вуліцы Сьвярдлова і Маякоўскага да Камвольнага камбінату ў праспэкт Міколы Ермаловіча. А за камбінатам ‑ у Ігуменскі тракт.

**Гайшун, Менск**

лісты ў рэдакцыю

## ГЛЫБОКАЕ – "ЗАЛАТОЕ ДНО" І "ПАРАХАВАЯ БОЧКА"

Пару тыдняў таму нечакана зачынілі глыбоцкі Малы рынак, які ў народзе завецца папросту "Хітрушка". Бульдозэр пры расшырэньні гандлёвай пляцоўкі агаліў у пласьце зямлі цэлы арсэнал. Сапёры (маёр і сэржант), што прыехалі зь Межыцы з-пад Лепелю, знайшлі 308 мінаў калібру 50 мм да батальённага мінамёту. Дзьве міны былі чамусьці савецкія, астатнія ‑ нямецкія. Міны вывезьлі за горад і ў раёне Белага возера ўзрывалі партыямі па 50–100 штук. Начное рэха даносілася і да Глыбокага, адбіваючыся ў шыбах дамоў.

На гэтае разьмінаваньне сабралася паглядзець колькі разявакаў, якія назіралі зводдаль, бо бліжэй не пускалі міліцыянты. Адзін знаўца мясцовых плётак, што стаяў побач са мной, прыгадаў: "Пару дзесяцігодзьдзяў таму, яшчэ пры Саюзе, праводзілі тут суботнік. Ахвотных прыбіраць сьмецьце і капаць зямлю рыдлёўкай задарма было мала. Між тым, адзін зь землякопаў, родам з суседняй вёскі Прыперна, знайшоў раптам пушку з залатымі манэтамі. Сьведкаў было зашмат, каб гэты скарб прыхаваць. Здалі дзяржаве. Шчасьлівец купіў "Жыгулі". На наступны суботнік сабралася ледзь не палова Глыбокага..."

Зрэшты, глыбоцкія скарбы ўсім наскомілі, нават Алег Трусаў у "НН" выказваў занепакоенасьць лёсам скарбу з 630 залатых манэтаў, якія вывезьлі ў Маскву. Між тым глыбоцкае золата вывозілі і немцы ў германскую крэдытную касу ў Рызе падчас апошняй вайны. Дзіўнага нічога няма: да 1941 году каля 80% жыхарства гораду складалі жыды, якія называлі Глыбокае "маленькім Данцыгам". Блізу 10 тысячаў зь іх загінула ў гета, але перад гэтым шмат чаго было прыхавана ў зямлі.

**Уладзімер Скрабатун, Глыбокае**

## У НАС У БНФ

У ліпені баранавіцкая суполка БНФ "Адраджэньне" зьвярнулася ў гарвыканкам з прапановай добраўпарадкаваць канцавы аўтобусны прыпынак на вул.-Тэльмана. Таксама былі раскіданыя 4000 улётак, якія заклікалі жыхароў мікрараёну тэлефанаваць у выканкам з такім самым патрабаваньнем. Улады спачатку сапраўды пачалі былі аднаўляць прыпынак, нагналі тэхнікі. Аднак праз колькі тыдняў на пачатку верасьня ўсе працы па добраўпарадкаваньні спыніліся — ня стала бюджэтных грошай.

Каб разварушыць вэртыкальшчыкаў, "вячоркаўцы" падалі заяўку на пікет 9 лістапада на месцы правядзеньня аднаўленчых работ. Выканкам дазволіў яго, але месца перанёс у Малады Парк — на другі канец гораду. У дзень пікету фронтаўцы, што вырашылі былі ўжо правесьці несанкцыянаванае мерапрыемства, пабачылі тэхніку і рабочых, якія завіхаліся на аднаўленчых работах — клалі асфальт, ачышчалі пляцоўку пад дашок.

Увесну, як ужо пісала "НН", "вячоркаўцы" здолелі дабіцца, каб мясцовыя улады заасфальтавалі ходнікі на той жа вуліцы, каля аўтавакзалу.

**Равяка Руслан, Баранавічы**

## ЗАСТУПІЦЦА ЗА ПАКРЫЎДЖАНАГА

Пішу вам ліст дзеля таго, каб расказаць пра сваю паразу, папрасіць прабачэньня і выправіцца. Яшчэ сваёй мэтай стаўлю зьвярнуць увагу на той фронт барацьбы, які мы ігнаруем.

Гэтае здарэньне адбылося ў грамадзкім транспарце. Яно не было нечаканым, новым, бо такое здараецца ледзь ня кожны дзень і з вамі. Дзядзька, гадоў за 50, відаць, хворы на галаву, вельмі непрыстойна абразіў дзяўчыну. Мне ж трэба было выходзіць, і я выйшаў... Я здрадзіў ёй, я здрадзіў ідэі і самому сабе. І з кожным такое бывае, і мы баімся, пазьбягаем канфлікту, тлумачачы гэта тым, што некуды сьпяшаемся, тлумачачы сваёй сьціпласьцю, боязьзю альбо абыякавасьцю.

І ня маюць рацыі тыя, хто кажа: "Гэта чужыя праблемы, мяне яны не датычацца. Чаго я буду каго абараняць?". А я кажу вам, што хопіць апускаць вочы, хопіць чакаць нейкіх ворагаў, калі гэтыя пачвары ўжо тут, сярод нас. Калі ты лічыш сябе сапраўдным мужчынам, нацыяналістам-абаронцам, дык ведай — ты жаўнер на гэтай зямлі, і пакуль твой фронт — гэта крама, транспарт і вуліца. Барані свой крэўны народ і здабывай у яго падтрымку ўдзячныя сьлёзы, тады будзе табе Перамога. Для мяне той дзень быў пераломным, я паглядзеў у люстра і спытаў у сябе, ці даравальна мне такое? Вядома, не. Я прыняў прысягу, жадаў бараніць свой Край, а да самага простага ня быў падрыхтаваны. І толькі тады я зразумеў словы з бэпээсаўскай улёткі з "Маршу Свабоды": "Усё! Цяпер пачынаецца мой Нацыянальны Чын! Гэта мой Нацыянальны Бастыён, і больш ні кроку назад! Больш ніякага ўнутранага згодніцтва. Гэта мая Ворша і мой Грунвальд! І вораг пабяжыць, вораг будзе растаптаны, зьмецены, разарваны на кавалкі!".

Так, гэта мой Бастыён!

**Курсант МНС Беларусі А., Менск**

## ПАДТРЫМАЙМА БЕЛАРУСКІ ВІДЭАКЛЮБ!

Да Вас зьвяртаецца Беларускі Відэаклюб Таварыства Беларускай Мовы з просьбай аб падтрымцы выданьня і дэманстрацыі відэастужак на беларускай мове. БВК пераклаў на беларускую мову відэафільмы "Пяты элемэнт" і "Адважнае сэрца", перавыдаў фільм "Ісус" зь беларускім перакладам. Цяпер БВК заканчвае працу над відэазборнікам "Фільмы з удзелам Віктара Шалкевіча" ("Сьлёзы блуднага сына" і "Салодкі яд кахання"). На чарзе ‑ мастацкія фільмы "Пан Тадэвуш", "Агнём і мячом", "Матрыца", "Бэтховен", "Красуня", "Маска", "Страчаны сьвет. Юрскі парк-2", мультфільм "Кароль Леў". У плянах ‑ мастацкая стужка "На чорных лядах" і дакумэнтальны фільм "Вяртаньне Міхася Забэйды".

Мы гатовыя разьмясьціць Ваш лягатып на вокладцы відэакасэты, а Ваш відэаролік ‑ перад запісам фільму. Калі Вы будзеце спонсарам таго ці іншага фільму, дык падчас яго дэманстрацыі на рэгіянальных каналах будзе дэманстравацца Ваш відэаролік ‑ як спонсара гэтага выданьня.

Таксама Вы можаце падтрымаць дэманстрацыю ўжо выдадзеных стужак, размясьціўшы сваю рэкляму падчас яго паказу.

Вы можаце падтрымаць нашую дзейнасьць, зрабіўшы ахвяраваньні. Грошы можна перавесьці на разьліковы рахунак ТБМ №3015212330014 у Гардырэкцыі Белбізнэсбанку Менску код 764 (пры пераводзе з ашчаднай касы камісійны збор не бярэцца). Калі ласка, квітанцыю пра аплату дасылайце на адрас 220107, Менск, а/с 150.

Нашыя кантакты:
220107, Менск, а/с 150.
Тэл. (017) 213-43-52, 240-78-01, Віталю Станішэўскаму.
E-mail: belvidea@hotmail.com

Блізкая гісторыя

Конкурс па гісторыі для школьнікаў Беларусі

## МОЙ РАДАВОД. ЛЁС СЯМ'І Ў XX СТАГОДЗЬДЗІ

**Арганізатары конкурсу:**

**Грамадзкае аб'яднаньне "Дыярыуш"**
пры ўдзеле: **Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны**

*У кожнай сям'і ёсьць свая гісторыя, кожны чалавек мае радавод. Гэтая гісторыя можа сягаць у сівую даўніну, але і калі вы ведаеце ўсяго некалькі пакаленьняў сваіх продкаў — гэта таксама гісторыя. Кім быў ваш прадзед? Як прайшло дзяцінства вашых дзядулі і бабулі? Чаму ваша сям'я жыве ў гэтых мясьцінах і дзе вашыя продкі жылі раней? XX стагодзьдзе — гэта прынамсі чатыры пакаленьні вашага роду. Ці ня варта даведацца дакладней — хто вы і адкуль ваш род? Калі вам цікавыя гэтыя пытаньні, значыць, гэты конкурс для вас*

**Куды трэба адсылаць падрыхтаваную працу:**

Каму: "Блізкая гісторыя"
Куды: а/с 128, 220064, Менск

**Прынцыпы падрыхтоўкі працы:**

Працу можна рабіць індывідуальна альбо групай, самастойна ці з дапамогай старэйшага. Кіраўніком (альбо куратарам) працы можа стаць ваш настаўнік, выхавацель, бібліятэкар альбо хтосьці з вашай сям'і. Адзін куратар можа весьці некалькі прац.

Форма працы можа быць адвольная: сачыненьне альбо эсэ, інтэрвію, фільм, аўдыёзапіс. Калі праца нятэкставая (аўдыё-, відэаматэрыялы, фотаздымкі), да яе павінна быць далучана пісьмовая частка, якая ўключае камэнтар да крыніц альбо адлюстроўвае працэс дасьледаваньня.

Праца мусіць мець творчы характар: не павінна быць перапісана з кніг ці з чужых артыкулаў.

Калі вы карыстаецеся якімі-небудзь матэрыяламі ці чужымі тэкстамі (а працы па гісторыі, даведнікі і прэса могуць быць карыснымі дапаможнікамі), абавязкова дайце спасылку на крыніцу. Калі вы маеце арыгінальныя старыя ці архіўныя дакумэнты, абавязкова пазначайце іх паходжаньне і назвы.

Аб'ём працы адвольны.

Працу пажадана пісаць па-беларуску. Тэксты крыніц можна падаваць на мове арыгіналу.

Ня мае вялікага значэньня, як аформлена ваша праца: надрукавана на пішучай машынцы, зроблена на кампутары альбо напісана ад рукі. Галоўнае, каб яна была выканана ахайна (калі гэта рукапісны варыянт — разборліва). Абавязкова аформіце тытульны аркуш, а таксама запоўніце анкету ўдзельніка.

Працу дасылайце ў адным асобніку.

**Нашыя каардынаты:**

"Блізкая гісторыя", а/с 128,
220064, г.Менск.
тэл./факс (8-017)227-51-09
E-mail: iryna@dyjaryush.org.by

**Усе ўдзельнікі атрымаюць памятныя прызы і дыплёмы, пераможцы — узнагароды.**
**Найбольш актыўныя куратары прац таксама будуць адзначаныя.**
**Рада Конкурсу распрацоўвае правілы Конкурсу,**
**вызначае кампэтэнтнае Журы, якое будзе ацэньваць працы.**
**У Раду ўваходзяць беларускія навукоўцы і грамадзкія дзеячы:**

Ларыса Андросік — архівіст
Уладзімер Арлоў — літаратар, гісторык
Вацлаў Арэшка — гісторык культуры
Лявон Баршчэўскі — літаратар, перакладчык (Нацыянальны дзяржаўны гуманітарны ліцэй імя Якуба Коласа)
Уладзіслаў Вяроўкін-Шэлюта — гісторык
Алена Дэц — настаўніца
Ігар Кузьняцоў — гісторык
Галіна Перапечка — гісторык
Генадзь Сагановіч — гісторык (часопіс "Беларускі Гістарычны Агляд")
Анатоль Сідарэвіч — гісторык (часопіс "Крыніца")
Віталь Скалабан — гісторык (Навукова-дасьледчы асьветніцкі цэнтар імя Ф.Скарыны)
Алег Трусаў — гісторык (Таварыства беларускай мовы)
Міхась Чарняўскі — гісторык (Нацыянальная акадэмія навук Беларусі)
Захар Шыбека — гісторык
Сакратар Рады Конкурсу — **Ірына Коваль** (Грамадзкае аб'яднаньне "Дыярыуш")

Усе працы застануцца ўласнасьцю грамадзкага аб'яднаньня "Дыярыуш" і будуць стала захоўвацца ў Архіве найноўшай гісторыі. Лепшыя зь іх будуць надрукаваныя ў зборніку конкурсных прац, а таксама ў беларускіх пэрыядычных выданьнях. Матэрыяламі сваіх прац аўтары могуць карыстацца ўва ўласных публікацыях.

*Больш падрабязную інфармацыю пра наш Конкурс і брашуру з мэтадычнымі парадамі вы атрымаеце, калі зьвяжацеся з намі.*

# Адамавік выйшаў да людзей

"Ягоныя творы камусьці падабаюцца, некаму — не, нехта іх успрымае, хтосьці — не. Але чытаюць яго ўсе", – гэтак выказаўся крытык Пятро Васючэнка на прэзэнтацыі зборніка "Тэксты", дзе на тысячы старонак выдрукавана найлепшае з творчае спадчыны Адама Глёбуса.

Сотню прысутных на імпрэзе чакаў сюрпрыз. А.Глёбус паказаў публіцы свой першы зборнічак, які ўжо па выдрукаваньні "пусьцілі на локшыну" – зарэзала КГБ. "Мне пазваніў Міхась Скобла й сказаў, што ўнук палкоўніка КГБ Данільчыка распрадае дзедаву бібліятэку, ды параіў схадзіць і выкупіць сваю кнігу... Спачатку я шукаў яе на беларускіх палічках – палкоўнік быў аматар творчасьці такіх, як Ларыса Геніюш – шмат ейных рукапісаў бачыў. Мае ж кнігі там не было... Яна ляжала між Салжаніцыным і Булгакавым, а выкупіў я яе за 10 тысяч рублёў, у тры разы даражэй за том маіх "Тэкстаў". Палкоўнік пакінуў у канцы ня выдадзенага ў 1984 г. зборніка А.Глёбуса характэрныя зацемы: "неясно, на что намекает", "богоіскательность", "рэлігіозность", "містіка"...

Ня выдаўшы свае кнігі, А.Глёбус аформіў першы зборнічак Уладзімера Арлова, які з задавальненьнем распавеў пра супрацоўніцтва з сваім цёзкам: "Я ведаю Глобуса (ён жа Глёбус) па сумеснай дзейнасьці ў беларускай літаратуры. Яго завуць Вова. І мяне. Уладзяў шмат цяпер, а Валодзя ў мяне заўсёды атаесамляўся з Валодзем Ульянавым. У яго была майстэрня на Казлабродзкай, дзе мы пілі чырвонае віно й гулялі ў тэніс, малы, натуральна. Там не было WC, і трэ было загартоўвацца – інакш залічыцца параза... На старонках нашага літаратурнага згуртаваньня "Крыніцы" ў наваполацкай газэце "Хімік" шмат хто друкаваўся: Сяржук Сокалаў, пасьля ён стаў Воюшам, і Адам Глёбус таксама. А пасьля да нас зь Ленінскае бібліятэкі прыходзілі лісты, што не стае газэт. Не ставала якраз нумароў зь літаратурнаю старонкаю. І вельмі прыемна, што і творы з гэтае кнігі ("Тэкстаў" – В.М.) выходзілі ў нас. А потым выйшла мая кніга "Добры дзень, мая шыпшына", аформіў якую Вова. Мы выпілі за гэта, і Вова сказаў: "Давай я ўсе твае кнігі буду афармляць!" Але ніводнае болей не аформіў, бо я пачаў пісаць брутальныя рэчы на гістарычную тэму. "Трэба пісаць, як у першай кнізе – тады буду афармляць", – патлумачыў Глёбус. Я ж ня мог адказаць узаемнасьцяй, бо ў маленстве маляваў толькі катоў і котак, але пасьля рэгабілітаваўся, адрэдагаваўшы колькі Глёбусавых кніжак... Гэтыя мае рэмінісцэнцыі трэба зграбнаю высноваю завяршыць. Калі творчасьць Адама Глёбуса параўнаць з жанчынаю, дык гэтая жанчына мне ўяўляецца халоднаю, калі не сказаць фрыгіднаю, але наша пяшчота да ягонае творчасьці растапіла фрыгіднасьць", – закончыў сваю найдаўжэйшую й найэфэктнейшую на імпрэзе прамову Ў.Арлоў, які пры канцы зацеміў пра нястачу ў новым зборніку разьдзела "Суайчыньнікі".

Суайчыньнікі, напэўна, не пакрыўдзіліся й не пакрыўдзяцца. Зашмат праўды ў Глёбусавых нарысах. Глёбусу зайздросьцяць, як Эдуард Акулін, але па-добраму. Перад тым, як прапяяць песьню-дарунак, ён абмаляваў сваё бачаньне постаці А.Глёбуса: "Адам-першачалавек, які стварае мадэль сьвету". Першачалавек пасьпеў стацца й першамафіёзі, бо Глёбуса абвінавацілі ў стварэньні **пад сябе** газэты "Наша Ніва" й часапісу *"Arche"*. Э.Акулін бяз зайздрасьці заўважыў: "Лепш пісаць у створаныя пад сябе газэты, чымся пісаць пад сябе й пасьля раскідваць **гэта** ў бакі". (Гэткія натуралістычныя эмацыйныя фразы былі ўласьцівыя амаль усім выступоўцам.)

Валерка Булгакаў, рэдактар часапісу *"Arche"*, ня стаў апраўдвацца ў незалежнасьці ад літаратурнае мафіі: "Глёбус – ня гэтулькі пісьменьнік, як унівэрсальна адораная постаць. Сп.Глёбусу наканавана даўгое ды цудоўнае жыцьцё, і яму трэба паспрабаваць сябе ў мэдыцыне і ў палітыцы. Адам Глёбус ідзе наперадзе беларускага народу, распрацоўваючы новыя абсягі; і я пажадаў бы яму быць перакладзеным на розныя эўрапейскія мовы, каб яшчэ далей пашырыць гэтыя абсягі".



Глёбуса-палітыка хацела б убачыць і Вольга Караткевіч, якая адмыслова з Прагі прыехала па ягоную новую кнігу ды каб павіншаваць найславуцейшага беларускага літаратара ад радыё "Свабода".

Адцямляючы значнасьць Глёбусавае постаці ў нашай літаратуры, Вітаўт Чаропка ўганараваў яго савецкім мэдалём *"За трудовую доблесть"*.

Але ня ўсім гэта спадабалася – адзін з прысутных даслаў цыдулку з сваім абурэньнем: "Гэта пародыя на вечарыну. Вы ня можаце вымавіць беларускага "ч"!" "Зато я прекрасно говорю с московскім акцентом", – зусім не зьбянтэжыўся Ўладзімер Адамчык.

"Калі табе перашкаджаюць – ты на правільным шляху", – падсумаваў Глёбус плён свае працы: раздаўшы аўтографы, Адамавік зьнік у цемры менскіх вулак.

**Віктар Мухін**

БТ вачыма беларуса

## П'янае БТ

Калі нехта спазьняецца і прыходзіць у кампанію, дзе ўжо пэўны час доўжыцца застольле, звычайна кажуць, што яму трэба "даганяць", бо інакш і таму, хто спазьніўся, і астатнім будзе ня вельмі цікава. Карацей – ня будзе паразуменьня.

Чаму я пішу пра гэта? Шчыра кажучы, не стрываў у часе чарговай трансьляцыі "Залатога шлягеру". Падалося, што і Бюль-Бюль аглы, і яшчэ добры тузін старэчаў, якія спрабавалі сьпяваць, але ўжо амаль не маглі, былі добра паддатыя, бо хіба можна на цьвярозую галаву выглядаць гэтак сьмешна?

Я раптам адчуў, што каб далей глядзець гэтае "шоў", трэба альбо хуценька "даганяць" тых, хто ўжо колькі фэстывальных дзён "спажывае" ў Магілёве, альбо – выключаць тэлевізар. Інакш не патрапіш зразумець, чаму адны робяць выгляд, што яны супэрзоркі, а другія пры гэтым – сапраўды ўдзячныя слухачы. І выключыў тэлевізар.

**Аляксей Дзікавіцкі, Пінск**

дзе варта быць

### *Караткевічавы фільмы*

У кінатэатры "Зьмена", дзе часьцяком круцяць беларускія фільмы, да 70-годзьдзя Ўладзімера Караткевіча заплянавалі цэлую праграму. 13-16 лістапада а 14-й дакумэнтальная стужка "Быў. Ёсьць. Буду.", якую зьняў Юры Цьвяткоў.

### *Арлоў і Бартосік*

Творчая сустрэча пісьменьніка Ўладзімера Арлова і сьпевака Зьмітра Бартосіка з чытачамі адбудзецца ў бібліятэцы імя Багушэвіча (вул.Прытыцкага, 42) у Менску. Аўторак, 17.00.

### *Арлен Кашкурэвіч*

8 лістапада ў Полацкай бібліятэцы імя Якуба Коласа адкрылася выстава мясцовага мастака-графіка Арлена Кашкурэвіча. На выставе прадстаўлены работы, прысьвечаныя Еўфрасіньні Полацкай, што ўваходзяць у цыкл твораў мастака «Сьветачы зямлі беларускай». Выстава будзе працаваць да канца месяца.

### *Арган у Сафіі*

5 лістапада ў Полацкім Сафійскім саборы распачаўся V Міжнародны фэстываль арганнай музыкі «Званы Сафіі», прысьвечаны Ёгану Сэбасьцьяну Баху. У Сафіі будуць Ёахім Айхорн зь Нямеччыны, Уладзімер Неўдах з Аўстрыі, Алена Бутузава і Кацярына Лявонцьева з Расеі. На фэстывалі выступяць і беларускія музыкі Ксенія Пагарэлая і Тэрэза Чарыева. Прагучыць музыка І.С.Баха, Г.Ф.Гендэля, І.Крэбса, Л.Моцарта, А.Кароткіна, А.Ліцьвінскага. Канцэрты будуць праходзіць па выходных. Скончыцца фэстываль 26 лістапада.

### *У залі камбінату "Мастацтва"*

У выставачнай залі Берасьцейскага камбінату «Мастацтва» праходзіць пэрсанальная выстава Міхала Канькова. Гэта першая ягоная пэрсанальная выстава за 30 гадоў працы. Выстаўляюць каля 80 працаў, многія зь якіх створаныя ў гэтым годзе. Тэмы жывапісу і графікі Канькова - экалёгія чалавечай душы, страчаныя ілюзіі, смутак, боль. Адсюль і назвы твораў - «Гісторыя хваробы», «Час разбураных гнёздаў», «Чырвоная кніга», «Сумная лодка», «Перарваны палёт», «З-пад цёмнай вады».

**А.К.**



гісторыя культуры

# Думалі, што Багушэвічава

Ўладзімер Содаль

Было гэта гадоў пятнаццаць таму. Неяк аднаго разу апоўдні зазваніў тэлефон. Я падняў слухаўку.

— Уладзімер Ільліч?! — перапыталіся на другім канцы.

Пераканаўшыся, што я той самы, хто патрэбны, мне адрэкамэндаваўся сам Максім Танк. Ён патлумачыў, што да яго завітала тут Станіслава Абцэвіч з Багушэвічавых Кушлянаў. То ці хацеў бы я зь ёю спаткацца? Кажу, буду чакаць.

— Ну, то яна ўжо едзе да Вас, сустракайце! Спатыкайце!

Праз нейкія паўтары гадзіны спадарыня Станіслава была ўжо ў маёй кватэры высотнага гмаху на рагу Каліноўскага і праспэкту Скарыны.



Каб зразумець далейшыя падзеі, трэба трошкі больш падрабязна расказаць пра маю госьцю. Пэўны час яна жыла ў сям'і Максіма Танка, дапамагала гадаваць яму ўнука, трохі гаспадарыла на кухні. Ведала шмат народных песень, любіла іх сьпяваць. За бяседным сталом яна шмат сьпявала ў нас. Асабліва прыгожая была песьня, як цешча ў зяця гасьцявала. Пачыналася яна так:

Цешча к зяцю пайшла ў госьці, —
Ой, сярдзіты быў той зяць...
Меў ён многа ў сабе злосьці,
Не любіў і патураць
Ні сабе, ні сваёй жонцы.

Песьня гэтая была доўгая, як опэра, але сьпявачка з Кушлянаў, нягледзячы на свой немалады век, выцягвала мэлёдыю належна і з трапяткой дрыготкай. Песьня слухалася. Яна мела гульліва гумарыстычны зьмест. Але ня толькі яе зьмест, але і сьпеў, ладам пад дробную полечку, лагодзіў душу. Станіслава Абцэвіч тлумачыла, што гэтай песьні яна вывучылася ад паэтавай дачкі Туні і была пэўная, што гэтую песьню напісаў ні хто іншы, як Мацей Бурачок — Францішак Багушэвіч. Яе напеў я запісаў на магнітную стужку, даваў шмат каму паслухаць. Хтосьці з маіх слухачоў аднойчы сказаў: "Дык гэта ж Якуба Коласа словы!" Праз пэўны час я зьверыў: і напраўду ў зборы Коласавых твораў ёсьць такі верш. То чаму ж тады кушлянцы прыпісвалі згаданы твор свайму земляку Францішку Багушэвічу? Проста так ці ў іх была хоць якая падстава?

Падчас сьвяткаваньня 160-х угодкаў Францішка Багушэвіча я знаёміўся са старымі выданьнямі, у якіх зьмяшчаліся Багушэвічавы творы. Сярод іх патрапіў мне ў рукі "Беларускі каляндар" на 1915 год, выдадзены ў Вільні. У ім якраз і быў выдрукаваны ўпершыню гэты гумарыстычны твор за подпісам "Томаш Булава". А перад ім за подпісам "Сымон Рэўка" быў выдрукаваны і Багушэвічавы верш "Не цурайся". Усё гэта магло стварыць у кушлянцаў ілюзію, што песьню-верш "Зяць" напісаў той жа Сымон Рэўка, ён жа і Мацей Бурачок. Хто ж тады ведаў, што Тамаш Булава — гэта Якуб Колас. Псыхалягічна кушлянцы тады былі гатовыя ўсё, што зьяўлялася вусна ці пісьмова па-беларуску, прыпісваць Мацею Бурачку. А каму было яшчэ?! На ўсю Беларусь мільён пракурораў і толькі Ён адзін адвакат!

У мяне сабралася нямала запісаў літаратурных твораў, якія калісь бытавалі і жылі на кушлянскіх абшарах. Калі-небудзь я сыстэматызую гэтыя запісы. Яны шмат чаго нам цікавага адкрыюць. Што ж да песьні "Зяць" на Коласавы словы, то шмат хто і цяпер лічыць, што гэтую песьню напісаў Францішак Багушэвіч. Ведаюць гэтую песьню і ў недалёкіх ад Кушлянаў Жупранах. А зусім нядаўна мне паведамілі, што песьню пра зяця любяць і даўна сьпяваюць на радзіме Францішка Багушэвіча ў прывіленскіх Сьвіранах.

# Канавальная ноч

## Рэцэнзія з цытатамі

Зьбіраючыся ў які ўжо раз у дом культуры тонкасуконнага камбінату на менскай вуліцы Матусевіча, гэткі Бангалор пад дахам, я чакаў тонкіх, а не суконных жартаў. Бо на вясёлае сьвяткаваньне першае пяцігодкі Аб'яднанае Грамадзянскае Партыі быў запрошаны з Масквы Віктар Шэндэровіч, аўтар тэлепраграмаў НТВ "Куклы" ды "Итого".

На жаль, мае чаканьні ня спраўдзіліся. Яшчэ да Шэндэровіча былі спробы павесяліць публіку, што перапоўніла залю ДК "Сукно". Са сцэны на матыў "Гаўдэамус" хорам сьпявалі "Віват профі Сорас", выдзяляючы апошняе слова. Потым пад гітару сьпяваў бард Зьміцер Бартосік, які шмат разоў падчас вечарыны ўзгадваў пра "НН": "...Няма сярод іх "Нашай Нівы", безь якой я зусім бы прыкіс... і на шыі тваёй далікатнай шалік той я як сьлед зацягну".

Улічваючы сымболь АГП (чырвоны конь на белым полі), я б назваў сьвяткаваньне партыйнае пяцігодкі "Канавальнаю ноччу". А таму вялікі дзякуй Ірыне Сакаловай, рэдактарцы газэты "Феміда", за знойдзенага ёю цацачнага каня чырвонага колеру, што быў падараваны лідэру партыі Анатолю Лябедзьку.

Шоў у палацы "Сукно" нагадвала мне кінатэатар паўторнага фільму. Лідэр партыі Лебядзька з прэтэнзіяй на арыгінальнасьць распавёў, што галоўным лёзунгам АГП у 2001 годзе будзе: "Мілошавіч гатоў! Лукашэнка - будзь гатоў!" Заля выбухнула сьмехам ды авацыяй, і я зразумеў, што народ не чытае "Народнай волі". Артыкул якраз з такою назваю Лябедзька надрукаваў на першай старонцы "НВ" за тыдзень да сьвяточнае імпрэзы.

Ня менш сьвежым і арыгінальным было абяцаньне таго ж Лябедзькі апрылюдніць імя адзінага кандыдата на прэзыдэнцкія выбары, што ён адразу ж і выканаў: "Гэта - аб'яднаная дэмакратычная апазыцыя!"

Абяцанка паводле свайго цяперашняга рэальнага эфэкту была такою ж, як і прапанова Анатоля Лябедзькі да Аляксандра Лукашэнкі пра гэткую зьдзелку: дабравольная адстаўка ў абмен на бясьпеку ды матэрыяльны дабрабыт. "Грошай ня хопіць", - пракамэнтаваў прапанову мой сусед зьлева. А сп.Лябедзька разьлічвае за народныя грошы падараваць адстаўному Лукашэнку яшчэ й бясьпеку: "Мы гарантуем, што ніводзін волас (тут Лябедзька зрабіў шматзначную паўзу — **З.К.**) не ўпадзе зь ягонае галавы". Праўда, лідэр АГП адразу паведаміў, што ўсё гэта ён абяцае "бамжу", бо пасьля таго, як ён падаў у суд на Лукашэнку, высьветлілася, што той нідзе ня мае прапіскі. Як сказаў бы сам Лукашэнка, "тут і конь не валяўся".



Вось тут "Канавальная ноч" цалкам лягічна падышла да моманту, калі трэба было валяць каня. Спн.Сакалова вынесла на сцэну свайго каня-цацку ды спытала сп.Лябедзьку, якога полу сымболь АГП. Пачуўшы адказ, яна зрабіла выснову: "Значыць, ваша лошадь — кабыла". Тут ініцыятыву перахапіла Жана Літвіна з Радыё "Рацыя", якая пачала віншаваць АГП са сьвятам. Вельмі ветлівы вядучы Агурцоў сказаў у мікрафон: "Жана Літвіна — гэта надоўга". Ірына Сакалова безь мікрафону паправіла яго: "Гэта назаўжды!" Напэўна, яна мела рацыю, хоць Валянціна Палевікова з жаночае партыі "Надзея" прамаўляла са сцэны значна больш за спадарыню Літвіну.

Ну й пра Шэндэровіча. Распавёўшы пра тое, што яго доўга "не пускалі на гістарычную радзіму" (мо й слушна рабілі? — падумаў я на выхадзе з "Сукна"), дзе жылі ягоныя дзьве бабулі ды таксама чамусьці "дзьве" дзядулі, а менавіта ў Капаткевічы, Бабруйск, Магілёў і Чавусы, аўтар "Кукол" паспрабаваў зьдзівіць публіку ўбачаным у Бабруйску: два транспаранты над вуліцай з надпісамі "Сёньня Вялікі Кастрычнік" ды "Палітыку Прэзыдэнта ўсямерна падтрымліваем і ўхваляем!"

Што ж тут сьмешнага? Тут плакаць трэба. Але Віктар Шэндэровіч заявіў, што адчуў сябе маладым, павіншаваў прысутных з кастрычнікам ды прачытаў гумарэску пра тое, як салдат з матросам апісвалі маёмасьць Зімовага палацу ў Піцеры 1917-га. Зноў жа — што тут сьмешнага? Тут плакаць трэба! Хаця б з тае нагоды, што ўсе мы гэта ўжо чулі, і не аднойчы.

"Я вядучы драматург сучаснасьці. Тут сьмяяцца ня трэба. (Гэта ён кажа, а ня я. — **З.К.**) Я больш за 200 п'есаў напісаў. Зараз я вам некалькі дзясяткаў прачытаю", — сказаў спадар Шэндэровіч ды прачытаў. Запомніліся ня п'есы, а адзіны перапынак-эпізод, прысьвечаны Беларусі, дый той ускосна. Вядучы драматург распавёў са сцэны пра сваю сустрэчу з даўнім сябрам Барысам Розіным, які эміграваў у Канаду ды мае там сваю справу. Розін паведаміў Шэндэровічу, што "балдзее ад Лукашэнкі": штораніцы бяжыць да кампутара, шукае Лукашэнку ў інтэрнэце ды балдзее. "Вар'ят", — падумаў пра сябра Шэндэровіч, але потым спытаў яго, што ж за бізнэс той мае ў Канадзе, і атрымаў адказ: "Габрэйская эміграцыя зь Беларусі". Пасьля гэтага расказу кіраўнік "Итого" зазначыў, гледзячы ў суконную залю: "Я не ведаю, чаму у вас добра йдзе чорны гумар".

Нічога больш пра Беларусь сп.Шэндэровіч не сказаў, калі не лічыць цытатаў з Лукашэнкі пра тое, што "будуць на стале нармальныя чалавечыя яйцы" ды "беларускі народ будзе жыць дрэнна, але надоўга".

Хочацца чамусьці скончыць рэцэнзію словамі паэта-праўдаруба Ігара Ірценьева, што запаўняў сабою паўзу паміж выступамі Шэндэровіча. Магчыма, гэтыя словы ён прысьвяціў і выхадцам зь Беларусі ў Маскву: "Ей можно что-то дать насильно, но взять обратно — никогда!"

Дый ці варта браць?

**Зьміцер Каляradзкі**

## прыватныя абвесткі

***вітаньні***

**Nasta!** Víeni, per favore... Massimo

***вышыўка***

**Ладзім гурток беларускай вышыўкі**. Плянуем пашыць кашулі (сапраўдныя беларускія). Выкладаньне на роднай мове. Т.: 275-40-92, Алена

***друкарка***

**Прадаю ўжываную друкарку** за 25 000 руб. Т. (Ашмяна): (01593) 4-25-91

***ідэі***

**Хутка прэзыдэнцкія выбары.** Ура! Ян Беларус

***кантакты***

**Šanoúny hramadzianin Aleks!** Фармаваньне майго сьветапогляду адбывалася таксама на пачатку 90-х, і я цалкам Вас падтрымліваю і разумею. Мне ёсьць шмат чаго сказаць Вам. Алена

***кнігі***

**Беларускую Біблію, Эвангельле, духоўную літаратуру** куплю. Т.: 2264-263

**Прадаю кнігі па этнаграфіі, гісторыі, літаратуразнаўстве, мастацкую літаратуру** і г.д. Вышлю каталёг на замову. Т.: 272-81-98 альбо лістуйце: 220116, Менск, а/с 272

**На выставе ТБМ зьявіліся новыя CD, кнігі,** аўдыё- і відэакасэты, шаўроны 1991–1995 г. з нацыянальнай сымболікай, значкі, выцінанкі, налепкі і г.д. Адчынена з 11-й да 19-й, апроч выходных (Румянцава 13)

***мадэльер***

**Мадэльер адзеньня**. Дапамагу зьдзейсьніць вашыя мары. Т.: 252-73-06, Зося

***net***

**Весткавая агенцыя правага пагляду "Правае Рэха"** – за Беларусь для беларусаў, за эўрапейскую Эўропу! www.recha.cjb.net

***праца***

**Дапамагу пачаць свой бізнэс у хаце** (не распаўсюджваньне). Прыбытак ад 200 у.а. Нескладана! Даступна! Ад вас капэрта са зв/а + купон б/а: 220089, Менск-89, а/с 122

***фізыка***

Прыватныя кансультацыі па фізыцы. Т.: 252-73-06

**Прадам**
Статут ВКЛ (сучасн. выд.); "Энцыкляпэдыю сельскага гаспадара"; Энцыкляпэдыю "Беларусь у ВАВ"; зборы твораў: К.Чорнага ў 8 т., В.Быкава ў 4 т., М.Багдановіча ў 3 т.; Выбраныя творы У.Караткевіча ў 2 т.; Тураўскі слоўнік у 5 т. Тэл.: 258-43-54



**На мінулым тыдні на заклік падпісаць сябра азваліся спадарыня Рагнеда Аляхновіч, спадары Алесь Цюленеў ды Іван Наварыч зь Менску. Дзякуем!**

## сучасныя сагі

### "PORSCHE" ЗЬ МЯРЦЬВЯЧЫМ ПАХАМ

Сяброўка аднаго перагоншчыка аўтамабіляў зь Берасьця распавяла мне, як той аднаго разу ня мог даверыцца вачом, вычытаўшы ў нейкай газэце вестку "аб продажы навюткага "Porsche" ўсяго за 100 марак. Ён не прамінуў скарыстацца з абвесткі. Аўто было такім танным таму, што ў ім былы гаспадар атруціўся выхлапнымі газамі. Труп, аднак, выявілі толькі праз паўгода. За гэны час мярцьвячы дух прасяк усе седзівы ды абіўку, стаў абсалютна невыдаляльным. Хлопцу пра гэта сказалі, але ён усё ж паквапіўся ды набыў. Купіўшы танна, шукальнік мусіў за вялікія грошы замяніць седзівы, абіўку, панэлі, дыванкі, каб машынай, нарэшце, можна было карыстацца – інакш у Беларусі яе ніхто не хацеў купляць.

*Сучасная афарбоўка клясычнага сюжэту: гон за "дзешавейшаю" раскошаю ператвараецца ў "найдаражэйшую" расплату пры атрыманьні жаданай рэчы. Скупы плоціць двойчы.*

### ПАЛЬЧЫК

Маладая ды заможная дачка менскіх нафтавых магнатаў, выпускніца гішпанскага факультэту Лінгвістычнага ўнівэрсытэту выехала неяк у Пэру. Спынілася ў шыкоўным сталічным гатэлі. Парт'е прыкмеціў на ёй цудоўны брыльянтавы пярсьцёнак і параіў, каб госьця пільнавалася вулічных злодзеяў, якія пасьля бунтаў супраць Фухіморы сталі рабіцца ўсё больш нахабнымі. "Пакідаючы гатэль, — сказаў ён, — Вы заўсягды можаце пакідаць пярсьцёнак ў сэйфе рэцэпцыі". Тая ня зважыла на перасьцярогі. І аднойчы прыбегла ў гатэль, трымаючы на пальцах акрываўленую насоўку. Хітрыя злодзеі Лімы не пагрэбавалі адцяць жанчыне палец, на якім яна насіла каштоўную акрасу.

*У гісторыі назіраецца патрыярхальнае стаўленьне да асобы жаночага полу, а таксама перадсуды аб размаху злачыннасьці. Дзея магла з аднакавым посьпехам адбывацца і ў Мэксыцы, і ў Турэччыне, і ў сувэрэннай Беларусі.*

### ПАДЗЯЛІЛАСЯ

Адна студэнтачка Віцебскага мэдыцынскага замовіла сабе ў кавярні супу й гарбаты. Паставіўшы еміну на стол, яна літаральна на пару хвілінаў некуды адлучылася. Калі ж вярнулася, то была амаль шакаваная — за сталом сядзіць мурын і спакайнютка "точыць" ейны суп. Абурэньне злагодзілася антырасысцкімі настроямі. Яна села за адзін стол з мурынам і сказала: "Еж, еж, калі ласачка, я ня супраць. Дай я толькі сваю гарбату вазьму". Сказаўшы, узяла і выпіла. Чарнаскуры хлопец адно зьдзіўлена зерыў на яе. Студэнтка паднялася і зьбіралася сыходзіць, але раптам заўважыла, што папросту пераблытала месцы — на суседнім століку стаяў ейны немудрагелісты абед, зусім некрануты.

*Адзін мой таварыш па службе кляўся, што такая гісторыя адбылася ў Менску зь ягонай знаёмай. Сага празрыста нагадвае пра "жаночае глупяндзяйства". Прадукт цывілізацыі мужчынаў.*

### ЖАХЛІВАЯ АБМЫЛКА

Адзін чэскі дальнабойнік, знаёмы мужа маёй цырульніцы, паміж двума рэйсамі вырашыў ненадоўга адведаць сям'ю. У двары перад ягонай собскай хатай ляжаў нейкі вялікі клунак, як ён падумаў — мех ізь сьмецьцем. Ня маючы мажлівасьцяў для манэўраў на фуры, шафёр пераехаў тую заваду. Паставіў самаход, зайшоў у дом. Абняў ды пацалаваў жонку, дзьве дачкі, спытаў пра свайго сынульку. "А хіба ты яго сёньня ня бачыў?" — спытала жонка. — "Ён на двары ў люльцы сьпіць..."

*Чорная казка сучаснасьці, поўная недагаворак і алягічнасьці.*

**Сяргей Балахонаў**

## паштовая скрынка

**Марыі В. зь Менску.** Незалежна ад якасьцяў Вашага апавяданьня, яно для "НН" завялікае і стылёва цяжкое. "НН" цяпер імкнецца друкаваць меншыя па памеры рэчы. Раілі б Вам прапанаваць гэты твор часопісу "Arche" ці іншаму "тоўстаму" выданьню, разьлічанаму на больш удумлівае і нясьпешнае чытаньне.

**Паўлу Ш. зь Менску.** У сваіх артыкулах Вы блытаеце сьвет, зацямняеце яго, замест тлумачыць. Апроч таго, нам не падабаецца нагнятаньне страху і трывогі.

**Сержуку зь Менску.** Ліст атрымалі.

**Лявону Л. зь Ліды.** Гэтыя апавяданьні мы ўжо чыталі ў альманаху «Ад лідзкіх муроў». Звычайна мы не перадрукоўваем друкаванага раней у іншых выданьнях.

**І.Па-ву з Гомеля.** У Вашай справе зьвязаліся зь «Белпоштай». Яны абяцалі разабрацца з 18-м паштовым аддзяленьнем Гомеля. А мы падпісалі Вас на красавік-чэрвень, дзякуючы дабрадзеям — чытачам «НН».

**Сяргею Г. зь Берасьця.** Ваша «аўдыторная проза» надалася б для студэнцкага капусьніка. Пішэце, каб цікава было ўсім. Пазьбягайце недакладнасьцяў — «морды людзей, якія нечым нагадваюць фашыстаў»...

**Aleksu зь Менску.** Незразумела, дзеля чаго Вы гэта напісалі. Каб напалохаць ці папярэдзіць? Ці каб выказаць свой адчай? Ці каб пакпіць з уласных перакананьняў?.. Матывацыі ня мусяць узаемавыключацца.



**КУПОН БЯСПЛАТНАЙ ПРЫВАТНАЙ АБВЕСТКІ**

Запоўніце гэты купон, і мы надрукуем Вашу абвестку (ня больш за 15 словаў) бясплатна. 220050, Менск, а/с 537

Тэкст ______________________________

Імя і прозьвішча ______________________________

Адрас, тэлефон ______________________________

**НАША НІВА**
незалежная газэта
заснаваная ў 1906, адноўленая ў 1991

| | |
|---|---|
| кіраўнік праекту | Сяргей Дубавец |
| в.а. галоўнага рэдактара | Андрэй Дынько |
| заснавальнік | Павал Жук |
| карэктарка | Віялета Кавалёва |
| сакратарка рэдакцыі | Аляксандра Макавік |
| стыльрэдактар | Мікола Раманоўскі |
| адказны сакратар | Аляксей Чарняеў |
| выдавец | рэдакцыя газэты "Наша Ніва" |

**АДРАС ДЛЯ ДОПІСАЎ:**
**220050, Менск, а/с 537**
**Tel/fax: (017) 213-32-32**
**E-mail: niva@user.unibel.by**
**http://members.nbci.com/nasa_niva/**


6 палос фарматам А2. Друкарня выдавецтва «Беларускі Дом друку». Менск, пр. Скарыны, 79. Рэдакцыя не нясе адказнасьці за зьмест рэклямных абвестак. Кошт свабодны. Пасьведчаньне аб рэгістрацыі пэрыядычнага выданьня № 581 ад 4 ліпеня 1996 г., выдадзенае Дзяржаўным камітэтам па друку Рэспублікі Беларусі. Юрыдычны адрас: г.Менск, пр. Газэты «Известия», д. 8, кв. 173.
Наклад 3587.
Нумар падпісаны ў друк 13.11.2000.
Замова № 5957.
Дыспэтчарска-рэдакцыйны адрас: Менск, Залатая Горка, 7/9